Беларускі фонд культуры
Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны
Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры Савеце
Міністраў Рэспублікі Беларусь
Нацыянальная бібліятэка Беларусі

# В Я Р Т А Н Н Е

Дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь

МІНСК 1992

ББК Ч 774
В-99



Адказны за выпуск Т.М. Максімава

Укладальнік А.А. Тоўсцік

Вяртанне: Дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах
В-99 пошуку і вяртання нац. каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь /Беларус. фонд культуры. — Мн., 1992. — 256 с.

Матэрыялы зборніка прысвечаны праблемам вяртання нацыянальных культурных каштоўнасцей на Беларусь, якія ў розныя часы былі вывезены за межы рэспублікі. Аналізуецца сучасны аспект гэтай праблемы ў суадносінах паміж краінамі СНД. Большасць дакументаў друкуецца ўпершыню. Гэты зборнік падагульняе пяцігадовую дзейнасць камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры.

ББК Ч 774

В 44.3.3 / М332-92 без объявления

# П Р А Д М О В А

Гэты зборнік выдаецца ў адпаведнасці з рашэннем пленума праўлення Беларускага фонду культуры ад 29 красавіка 1992 г. Пленум разгледзіў пытанне "Праблемы вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі".

Частку першую зборніка і складаюць матэрыялы пленума. Змяшчаецца таксама ліст ураду Рэспублікі Беларусь па праблемах вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія вынікаюць з абмеркаванага на пленуме БФК пытання і патрабуюць свайго вырашэння на дзяржаўным узроўні.

Частка другая зборніка ўключае дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія "накапіла" камісія "Вяртанне" Беларускага фонду культуры за часы свайго існавання. Многія з іх прадстаўлены камісіі па яе просьбе архівамі, музеямі, бібліятэкамі з мэтай стварэння ў рэспубліцы картатэкі дадзеных аб тым, што вывезена з Беларусі не толькі з блізкіх, але і вельмі далёкіх часоў як ў гады варожых нашэсцяў, так і па нядбайнасці "сваіх" уладальнікаў ці кіраўнікоў і дзе яны цяпер знаходзяцца. Некаторыя з гэтых матэрыялаў здабыты ў час пошукавых камандзіровак членамі камісіі, перададзены навукоўцамі, актывістамі БФК. Друкуюцца таксама рашэнні прэзідыума БФК, запіскі і іншыя матэрыялы практычнага парадку па тых ці іншых пытаннях. Маецца на ўвазе, што ўсе гэтыя звесткі будуць закладзены ў камп"ютарную сістэму пад агульнай назвай "Вяртанне".

Складальнікі зборніка імкнуліся захаваць арфаграфію, стыль і мову набытых дакументаў. У даведцы камісіі "Вяртанне", якая змешчана ў першай частцы зборніка, ёсць звесткі, дзе знаходзяцца ў гэты час некаторыя дакументы ці што вернута на радзіму. Але, як бачна, гэта толькі пачатак той вялікай справы, якую неабходна здзейсніць агульнымі намаганнямі.

Частка трэцяя аб"ядноўвае пагадненні, якія заключаны паміж урадамі Садружнасці Незалежных дзяржаў аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, па пытаннях вяртання культурных і гістарычных каштоўнасцей, а таксама заўвагі і прапановы да гэтых дакументаў.

У зборнік уключаны спіс культурных каштоўнасцей, якія вернуты царквам. У асноўным гэта — абразы, прадметы культу, якія былі канфіскаваны супрацоўнікамі міліцыі у рабаўнікоў, злодзеяў і толькі таму не трапілі за межы рэспублікі. Спіс падрыхтаваны Міністэрствам унутраных спраў РБ.

Будзем спадзявацца, што праблемы вяртання нацыянальных каштоўнасцей на Беларусь, аб якіх распавядаецца на старонках зборніка, выклічуць яшчэ большую зацікаўленасць нашай грамадскасці да гэтай найважнейшай праблемы, прывядуць да практычных захадаў па яе вырашэнню.

Час пошукаў настаў.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ

Праблемы вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі.

(29 красавіка 1992 г.)

### УСТУПНАЕ СЛОВА І.Г.ЧЫГРЫНАВА

Шаноўныя калегі! Прэзідыум Беларускага фонду культуры выносіць на абмеркаванне Пленума пытанне: "Праблемы вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі, і задачы Беларускага фонду культуры". Але гэта не толькі задачы сёння аднаго фонду культуры.

Праблемы вяртання нацыянальных каштоўнасцей у рэспубліку даўно хвалююць нашу грамадскасць. Наша нацыянальная спадчына надзвычай багатая, не горшая і не меншая, чым у любога народа свету. Мы можам па праву ганарыцца вялікай разнастайнасцю сваіх гісторыка-культурных каштоўнасцей. На вялікі жаль, рабаваліся і руйнаваліся гэтыя каштоўнасці пад час шматлікіх войнаў, сацыяльных катаклізмаў, бесперапынных ліхалеццяў, якія вельмі часта выпадалі на гаротную долю нашага народа. Так званыя пераможцы-рабаўнікі не саромеліся прысвойваць гэтыя каштоўнасці, вывозіць далёка за межы Беларусі, гандляваць імі.

"Расклад" нашага культурнага нацыянальнага багацця, якое "асела" на іншаземных тэрыторыях, надзвычай стракаты. Тут і Швецыя, і Германія, і Польшча, і Літва, і Аўстрыя, і, безумоўна, Расія. Старэйшы брат таксама прыклаў сваю руку.

Але будзем самакрытычнымі. Вялікую шкоду нанесла і заганная практыка абыякавасці ў адносінах да гісторыка-культурнай спадчыны, якая панавала ў нашым жыцці ў нядаўнія гады. Мы ўсё гэта бачылі, назіралі і часта маўчалі. А той голас, які іншы раз прарэзаўся, патанаў у прававой немачы.

Беларускі фонд культуры з самага пачатку свайго існавання вырашыў звярнуцца да гэтай праблемы. Камісія "Вяртанне" пад кіраўніцтвам Адама Восіпавіча Мальдзіса аб"яднала вакол сябе адукаваных, па-добраму зацікаўленых энтузіястаў-актывістаў. Адбылося звыш 30-ці пасяджэнняў Камісіі, на якіх выпрацоўваліся розныя накірункі добратворчай дзейнасці. Галоўнае, бадай, — складанне картатэкі тых твораў, той маёмасці, якая вывезена з Бела-

русі, каб на пачатку ведаць, дзе што ляжыць. Ёсць і іншыя набыткі.

Галоўнае, да якога выніку мы прыйшлі — усю гэтую работу час ужо ставіць на дзяржаўную, прававую аснову. Як вядома, нядаўна Вярхоўны Савет РБ прыняў Закон "Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны". Гэта — добрая аснова і для актывізацыі работы па вяртанню нацыянальных каштоўнасцей. Хацелася б, каб Закон стаў дзеючым, каб ён не "павіс" у паветры, як такое часта здараецца ў нашым жыцці.

Пад дзяржаўнай асновай мы разумеем і як планаванне гэтай дзейнасці на заканадаўчым узроўні, так і выдзяленне адпаведных дзяржаўных сродкаў на ажыццяўленне навукова вызначаных праграм.

Многія сцвярджаюць: "спачатку накарміць народ, а потым ужо клапаціцца пра культуру". Адсюль і так надакучыўшы усім "астаткавы прынцып" у адносінах да культуры. А жыццём ужо праверана: ад унутранай культуры кожнага чалавека ў асобку і грамацтва ў цэлым залежаць і эканоміка, і тэхніка, і навука. Таму якой недарэчнасцю выглядае валтузня парламентарыяў вакол вызвалення ад падаткаў і Беларускага фонду культуры, і творчых саюзаў рэспублікі.

Усе мы, і наша дзяржава ў першую чаргу, нясем адказнасць за развіццё культуры, за захаванне і зберажэнне таго, што зроблена нашымі продкамі.

Шаноўныя калегі! Мы запрасілі на Пленум прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый, каб паслухаць меркаванні па гэтай праблеме ды сумеснымі намаганнямі выпрацаваць канкрэтныя прапановы. А затым, падагуліўшы і падсумаваўшы гэтыя прапановы, выкласці іх на абмеркаванне нашага Ураду.

Гэта не значыць, што Беларускі фонд культуры потым застанецца ў баку ад усяго гэтага. Наадварот, мы самым актыўным чынам, аб"яднанымі сіламі рушым гэтую справу далей.

Вось гэта тое, што хацелася б сказаць на пачатку пленума. Цяпер дазвольце даць слова старшыні Камісіі "Вяртанне" Адаму Восіпавічу Мальдзісу.

## ЧАС ВЯРТАННЯ НАСТАЎ

Даклад А.В.МАЛЬДЗІСА

Цяпер, калі Беларусь абвясціла свету пра свой суверэнітэт, калі ідуць перамовы і падпісваюцца пагадненні як з суседнімі, так і з аддаленымі дзяржавамі, трэба зноў, ужо не на грамадскім,

а на дзяржаўным узроўні рашуча паставіць пытанне пра лёс нашых мастацкіх каштоўнасцяў, якія па розных прычынах (пераважна ў выніку войнаў, але таксама і па ўласнай нядбайнасці) апынуліся за межамі рэспублікі, упрыгожваюць чужыя музеі, захоўваюцца, недаступныя беларускім даследчыкам, у чужых запасніках, бібліятэчных і архіўных сховішчах. Настаў час іх збірання, іх вяртання законнаму ўладальніку. Цяпер, пры падпісанні дагавораў, або -- ніколі. Бо другога такога шанца ўжо не будзе.

Сёння трэба самакрытычна прызнаць, што раней мы саромеліся, а то і баяліся гаварыць пра свае правы на тыя беларускія багацці, што знаходзяцца ў іншых краінах (асабліва -- у Расіі і на Украіне). Такія патрыятычныя памкненні нярэдка характарызаваліся як праявы нацыяналізму, як неразуменне таго, што ўсё, у тым ліку і музейныя скарбы, мусіць быць агульным, па сутнасці -- нічыйным. Зрэшты, па інерцыі, з-за комплексу нацыянальнай непаўнацэннасці, так лічым і цяпер. Інакш чым вытлумачыць той парадокс, што пры падпісанні першых дзяржаўных пагадненняў амаль нічога або вельмі мала гаварылася пра тыя нашы скарбы, якія апынуліся ў суседзяў?!

Каб даць падставы для такіх гаворак, прапаную вашай увазе сціслы агляд тых матэрыялаў, што былі назапашаны камісіяй "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры за 5 гадоў яе існавання, а таксама ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Для зручнасці гэтыя матэрыялы згрупаваны ў некалькі "блокаў" (па канкрэтных калекцыях або па краінах).

## I. Куды зніклі магілёўскія зборы?

Сярод беларускіх скарбаў, след якіх загубіўся ў другую сусветную вайну, на першым месцы я паставіў бы каштоўнасці, што да чэрвеня 1941 г. захоўваліся ў Магілёўскім абласным дзяржаўным гістарычным музеі. Найперш гэта -- крыж Ефрасінні Полацкай, унікальная духоўная рэліквія. Але не толькі ён. У 1941 г. з Магілёва зніклі дзесяткі калекцый. І шукаць іх трэба ў сукупнасці, таму што адна знаходка можа вывесці на след іншых.

Некалькі слоў пра гісторыю магілёўскіх збораў. Яны вядуць свой пачатак ад 1867 года, калі ў Магілёве адчыніў свае дзверы царкоўна-археалагічны музей. У ім было мноства абразоў, крыжоў, царкоўнага посуду, кніг у каштоўных вокладках, а таксама знаходкі розных археалагічных экспедыцый. У 1919 г. гэты музей быў

ператвораны ў дзяржаўны; яму перадалі будынак былога земскага банка па вуліцы Міронава, 33. На першым і другім паверхах будынка месціліся пакоі-сейфы, куды і склалі найбольш каштоўныя прадметы царкоўнага ўжытку. У 1929 г. да іх далучыліся крыж Ефрасінні Полацкай, перавезены туды з Мінска (у ЗША захаваўся акт перадачы, які быў апублікаваны ў нью-йоркскіх "Запісах"), іншыя каштоўнасці (Магілёў тады рыхтаваўся стаць сталіцай Беларусі). У 1933 г. у будынку па вуліцы Міронава,33 размясціўся абкам партыі, а музей перасялілі на Ленінскую вуліцу. Будынак там быў невялікі, таму размясцілі ў ім толькі экспазіцыю, прысвечаную савецкаму перыяду. Усе ж асноўныя старажытныя каштоўнасці засталіся ў абкаме партыі — у адным або двух (яснасці пакуль што няма) пакоях-сейфах. Усе гэтыя рэаліі вельмі істотныя для далейшых пошукаў, бо ў некаторых публікацыях і дакументах адзін музейны будынак падмяняўся другім, а гэта заблытвала сляды.

Што ж знаходзілася ў браніраваным пакоі (ці пакоях) у абкаме партыі? Даваенных апісанняў няма. Але перада мной ляжаць ксеракопіі актаў, складзеных адразу ж пасля вайны (ксеракопіі атрыманы нашай камісіяй дзякуючы Галоўнаму архіўнаму упраўленню). З іх вынікае, што крыж — толькі адна (хоць і найбольш важная) з каштоўнасцяў, якія зніклі з Магілёва ў 1941 г. Сярод іх — залаты і сярэбраны ключы Магілёва, дзве сярэбраныя пячаткі горада, залатыя упрыгожанні і пліткі з выявамі, знойдзеныя пры раскопках старажытнай Пампеі, сярэбраная булава Сігізмунда III, мітра архібіскупа Георгія Канінскага, кубкі з выявамі Пятра I і Аляксея Міхайлавіча, залатыя і сярэбраныя крыжы, дарахавальніцы, кадзільніцы, прадметы яўрэйскага культу. У актах называюцца абразы Белыніцкай (XV ст.), Брацкай (пачатак XVIII ст.), Спаскай (1670), Казанскай (копія, падараваная мясцовай царкве Аляксандрам II у 1867 г.), Іверскай Божай Маці, святых Мікалая, Пятра і Паўла, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі, карціны "Хрыстос", "Прыдворная кацярынінская дама", партрэты Паўла, Кацярыны, Канстанціна і Аляксандра У.Баравікоўскага, "Першы снег" І.Макоўскага, "Зіма на Украіне" І.Айвазоўскага, "Партрэт дачкі" І.Рэпіна, "Кавалер і дама ў садзе", "Парачка збірае вінаград", "Жанчына ля фантана", "Кавалер і дама на лёдавым катку" А.Вато і інш. Асобна ўказваюцца такія рарытэты, як крэмневы пісталет з залатой арабскай чаканкай, троннае крэс-

ла, выбраблена у 1780 г. да прыезду у Магілёў Кацярыны II, сані Напалеона, кінутыя ў час яго ўцёкаў праз Беларусь, кальчуга з Аналінскага кургана Быхаўскага павета, залатыя і сярэбраныя табакеркі, кішэнныя гадзіннікі, пярсцёнкі, жаночыя ўпрыгожанні, фарфоравыя статуэткі, мэбля і тканіны мясцовых майстроў. Зафіксаваны ў дакументах "гістарычная бібліятэка" (1200 тамоў), збор"беларускіх рукапісных і старадрукаваных кніг" (175 адзінак захавання), а таксама 26 каралеўскіх грамат XVI-XVIII стст., падараваных Магілёву, грамата 1570 г. караля Стэфана Баторыя на магдэбургскае права таму ж гораду, яе пацвярджэнне 1767 г., грамата Аляксея Міхайлавіча 1654 г. жыхарам Магілёва і грамата 1606 г. касцёлу ў Чарэі.

Урэшце, у магілёўскіх спісах ёсць сляды цэлых збораў: "калекцыя манет усіх часоў і народаў X-XIX стст. да 6 кг вагой, у іх ліку да 10 штук візантыйскіх залатых манет, астатнія сярэбраныя"; "Евангелле ў акладах работы беларускіх майстроў XVI-XVIII стст." — каля 20 кніг; "прадметы з раскопак курганоў: бронзавыя і сярэбраныя ўпрыгожанні з каштоўнымі камянямі, кольцы, бранзалеты, пацеркі, фрагменты жалезнай зброі"; "этнаграфічная калекцыя беларускага адзення XVII-XIX стст."; "калекцыя халоднай і агнястрэльнай зброі X-XIV стст." — 280 адзінак; "калекцыя ўзораў мастацкай работы па дрэву беларускіх майстроў XIV-XVIII стст."; "калекцыя мастацкіх фарфоравых вырабаў XIV-XVIII стст." — 170 адзінак; "Вялікая палеанталагічная калекцыя", энтамалагічная і мінералагічная калекцыі і многае іншае.

І сярод усяго гэтага багацця пад нумарам дзесятым значыцца крыж Ефрасінні Полацкай, ацэнены ў 1944 г. у шэсць мільёнаў рублёў (хаця ў сапраўднасці — крыж бясцэнны, бо як выказаць вартасць цудадзейных мошчаў, мініяцюрных выяў на эмалі або надпісаў, зробленых полацкім майстрам Лазарам Богшам у 1161 г.).

Куды ж усё гэта падзелася летам 1941 г., у час абароны Магілёва?

Раней адказ быў адназначным: зрабавана ці знішчана фашысцкімі захопнікамі. Так сказана ў акце ад 22 снежня 1944 г., у пазнейшых тлумачэннях былога дырэктара музея І.Мігуліна.

Пра крыж Ефрасінні Полацкай была, да прыкладу, распрацавана ледзь не фантастычная версія. Генадзь Ланеўскі пісаў у "Голасе Радзімы (14 мая 1981 г.), што нейкі оберлейтэнант выпадко-

ва трапіў у будынак з надпісам "Музей", спусціўся ў"падвал былога зямельнага банка, які стаў музеем", пабачыў там у куфры з чорнага дрэва "залаты крыж", здагадаўся, што ён вельмі каштоўны. Выяўленыя багацці перадаў райху, а крыж прысвоіў сабе. Потым яго жонка прадала рэліквію за сто тысяч долараў. "А праз месяц у старога ювеліра за вялікую цану перакупіў крыж агент амерыканскага мільянера".

Гэтая версія зачаравала многіх: і прадстаўнікоў улад, і работнікаў музеяў, і мяне, грэшнага (пісаў пра тое ў кнізе "Таямніцы старажытных сховішчаў", выдадзенай у 1974 г.). Па словах супрацоўніка Эрмітажа,доктара гістарычных навук Б.Сапунова, у 60-70-я гады іншы супрацоўнік Эрмітажа, буйны спецыяліст па шклу Б.Шалкоўнікаў спрабаваў выявіць крыж у зборах Морганаў, але яго там прыпалохалі тым, што яму "павырываюць ногі". Не ўдалося Б.Шалкоўнікаву ўказаць месцазнаходжанне крыжа ў сваім артыкуле для амерыканскага часопіса "Джорнэл оф глас стадыз" (1966, т.УШ), дзе адпаведны абзац пра Морганаў быў зняты без аніякіх тлумачэнняў. Даведаўшыся пра ўсё гэта ад супрацоўнікаў Эрмітажа, у 1990 г., будучы дэлегатам на чарговай сесіі Генеральнай асамблеі ААН, я таксама спрабаваў знайсці нашую нацыянальную рэліквію нумар адзін у зборах Пірпонта Моргана. Але не ўдалося. Тады было аднесена туды афіцыйнае запытанне ад нашага Міністэрства замежных спраў. Калі П.К.Краўчанка ўручаў гэтае запытанне, атмасфера была напружаная, нервовая. Дырэктар фундацыі паабяцаў нам, што адкажа тыдні праз два. Але адказаў( і то пасля напаміну) толькі праз два месяцы. Адказ быў даволі мудрагелісты: у фундацыі Пірпонта Моргана крыжа няма, але за прыватныя зборы ўсіх Морганаў ручацца нельга.

Паралельна з морганаўскай пашыралася ракфелераўская версія (у апошні час яна асабліва мусіруецца). Яе таксама правяралі, хоць і не на афіцыйным узроўні. Нарэшце, з"явілася і аўстралійская версія: маўляў, крыж трапіў у паўднёвае паўшар"е і захоўваецца там ці то ў банку, ці то ў царкве нашых суайчыннікаў. І адно, і другое мала праўдападобна. Прынамсі, беларуская эміграцыя пра гэта ведала б.

Аднак увесь час, калі я ды і іншыя члены камісіі "Вяртанне" ішлі па "амерыканскаму" і "аўстралійскаму" слядах, нас не пакідала адчуванне, што, відаць, нехта або нешта нас збівае,

несвядома ці свядома, з правільнага шляху, што публікацыі Г.Ланеўскага і іншых яго аднадумцаў заснаваны на вельмі хісткіх падставах. Міркуйце самі. Магілёў — не Брэст, абараняўся ён доўга. Таму можна было многае вывезці — хаця б самае каштоўнае. Безумоўна, сёе-тое згарэла ў будынку музея па Ленінскай вуліцы, які быў падпалены пры адступленні нашымі ж войскамі (факт, зафіксаваны ва ўспамінах сведкаў). Але ж там, прыгадаем, знаходзіліся пераважна экспанаты па савецкаму перыяду. Што датычыцца крыжа і іншых старажытных каштоўнасцяў, то захоўваліся яны ў будынку абкама, на якім шыльды "Музей" быць не магло. Недакладны Г.Ланеўскі і ў іншых рэаліях. Да прыкладу, пакой-сейф знаходзіўся не ў падвале, а бранІраваныя дзверы яго, нібыта парэзаныя аўтагенам, цэлыя і да сённяшняга дня...

Дык што ж у сапраўднасці здарылася ў Магілёве летам 1941 г.? Па-новаму асэнсаваць усю тагачасную сітуацыю першым паспрабаваў магіляўчанін В.Юшкевіч. У артыкуле, апублікаваным ім у газеце "Советская Белоруссия" 28 верасня 1990 г. (гэты нумар прыйшоў у беларускае прадстаўніцтва пры ААН якраз вечарам таго ж дня, калі мы ўручылі запытанне ў фундацыі П.Моргана), гаворыцца, што, па словах старажылаў, у адзін з дзён, калі нямецкія танкі рваліся да Магілёва, у будынак абкама "увайшла група людзей у форме НКВД. Яны адамкнулі сейф, паклалі каштоўнасці ў мяхі і паехалі. След іх прапаў."

Зрэшты, след іх, няхай і не зусім дакладны, усё ж знайшоўся. У 39 нумары газеты "Вестник Могилёва" за мінулы год была апублікавана гутарка супрацоўніка рэдакцыі з жыхаром горада А.Кавалёвым. Той расказаў пра свайго суседа Карла Іванавіча (прозвішча яго забыў), які ў 1941 г. эвакуіраваў каштоўнасці з пакоя-сейфа на другім паверсе будынка абкама партыі ў адсутнасць І.Мігуліна, які мог пра ўсё і не ведаць. Салдаты ўпакавалі "залатыя чашы, кароны з камянямі, булавы, абразы з камянямі, кнігі ў срэбраных вокладках", пагрузілі на грузавікі. А крыж Карл Іванавіч узяў з сабою ў кабіну... Адвезлі ўсё ў Маскву, здалі ў банк. "Пачалі складаць апісанне прадметаў. Раптам усе асцупянелі. У банк прыехаў Берыя і з ім мноства афіцэраў. Ён уважліва разглядаў прадметы і цокаў языком. Цэлы месяц ішло апісанне. Аказалася больш двух тысяч прадметаў". За вываз каштоўнасцяў Карл Іванавіч атрымаў медаль, яго нібыта прымаў і

частаваў сам Брэжнеў. Але пра усю гісторыю загадана было маўчаць. І маўчаў Карл Іванавіч аж да смерці. Толькі аднойчы, аднак, падзяліўся патаемным з суседам...

А днямі мне пазваніў з Санкт-Пецярбурга прафесар Б.Сапуноў. Ён паведаміў, што ў Эрмітаж прыйшоў ліст з Беларусі пра тое, што, нібыта, каштоўнасці былі вывезены з Магілёва яшчэ... на пачатку 30-х гадоў. Іх тады скіравалі у Ленінград, каб затым прадаць на міжнародным аўкцыёне. Версія цікавая і зусім верагодная, асабліва калі ўлічыць усю тагачасную атмасферу і высяленне самога музея з яго ранейшага будынка... Але былыя работнікі музея, найперш вядомы краязнавец І.Філіповіч, сцвярджаюць, што крыж і іншыя старажытнасці знаходзіліся там аж да 1941 г. Расказ А.Кавалёва на старонках "Вестника Могилёва" І.Філіповіч лічыць найбольш праўдападобнай адгадкай усёй магілёўскай загадкі.

Значыць, сёння вельмі і вельмі істотна праверыць усе моманты маскоўскай версіі. Калі каштоўнасці прывезлі у банк, то павінен існаваць акт іх прыёмкі. А, значыць, трэба зрабіць адпаведнае афіцыйнае запытанне расійскім уладам. Калі вядомы адрас жыхарства Карла Іванавіча у Магілёве (вул.Бялінскага,26), то можна ўстанавіць і яго прозвішча. Можна праверыць таксама, за што ён атрымаў медаль.

Зрэшты, маскоўскі след не выключае амерыканскага. Як піша мне І.Філіповіч, пра магілёўскія каштоўнасці Л.Берыя мог паведаміць І.Сталіну, а той — загадаць, каб яны былі "выкарыстаны на аплату Амерыцы паставак па ленд-лізу". Не выключана таксама, што крыж трапіў у ЗША нелегальным, спекулятыўным шляхам. Або — застаўся ў зборах самога Берыі ці яго падручных.

Днямі амерыканскі след нечакана пацвердзіўся у лісце з Балгарыі. Па нашай просьбе балгарскія беларусісты звязаліся з вядомай вяшчунняй (але не Вангай), і яна дала сваю, нечаканую для нас трактоўку ўсіх падзей. Гэтую версію, у якой фігуруюць Вільнюс і Осла, яшчэ правяраць ды правяраць. Скажу толькі, што, на думку балгарскай прарочыцы, крыж урэшце трапіў у ЗША, у штат Індыянаполіс, да прыватнага калекцыянера, які жыве з зямельнай рэнты. Прозвішча яго блізкае да Морис (?). Яму 57 гадоў. А крыж яму разам з калекцыяй завяшчаў бацька, які памёр летась на 86 годзе жыцця... Што да гэтага дадаць? Хіба толькі тое, што "Морис" вельмі падобны да "Морган".

Адным словам, трэба ўважліва праверыць усе шляхі, па якіх маглі ў 1941 г. пайсці магілёўскія каштоўнасці -- не толькі адзін крыж, а ўся іх сукупнасць. Бо іх страта -- бадай, самая балючая наша духоўная страта ў апошнюю вайну.

## 2. Сляды вядуць у заходнім кірунку

Беларусь знаходзіцца на скрыжаванні геаграфічных і гістарычных шляхоў і таму не раз была арэнай апусташальных войнаў і нашэсцяў з захаду і ўсходу, поўначы і поўдня. Татарска-мангольскія заваёўнікі і крыжаносцы, воіны Івана Грознага і Карла XII, Напалеона і кайзера, легіянеры і гітлераўцы... І кожны з захопнікаў не толькі забіваў жыхароў, разбураў гарады і сёлы, але і нішчыў культуру, рабаваў духоўныя і матэрыяльныя скарбы, вывозіў іх у свае схоўшчы.

Аднак, усё ж найбольшыя страты беларускім музейным, бібліятэчным і архіўным зборам нанесла другая сусветная вайна. Магілёўскія калекцыі -- толькі частка таго, што знікла ў яе час. Гітлераўскія захопнікі з першых дзён вайны вялі сістэматычныя акцыі па вывазу ўсяго таго, што было створана талентам і розумам нашых продкаў. Ужо ў канцы жніўня 1941 г. з Мінска ў Кёнігсберг былі вывезены найбольш каштоўныя карціны, "каменныя бабы" і калекцыя слуцкіх паясоў. Затым у Рацібор трапіў архіў Акадэміі навук. У глыб Германіі былі скіраваны значныя каштоўнасці, засяроджаныя ў Баранавіцкім музеі, звезеныя туды з навакольных гарадоў і маёнткаў. Вядома, што ў 1942 г. там знаходзіліся палотны Рубенса, творы беларускіх мастакоў, старадаўняя разьба па дрэву, заходнееўрапейскі і кітайскі фарфор... А затым сляды губляюцца.

Асобна, больш падрабязна хочацца сказаць пра трагічны лёс збораў Мінскага гісторыка-мастацкага музея. Тым больш, што магу тут абаперціся на унікальныя сведчанні і матэрыялы Антона Шукялайця. У 1942-43 гг. ён быў дырэктарам гэтага музея, затым выехаў у Германію, а цяпер жыве ў ЗША, з'яўляецца старшынёй Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. У час знаходжання ў Нью-Йорку я не раз сустракаўся з ім, запісаў яго успаміны на дыктафон, а потым атрымоўваў ад яго лісты з істотнымі дапаўненнямі.

Па словах А.Шукялайця, багатыя фонды музея ў 1941 г. не паспелі эвакуіраваць. Усе супрацоўнікі ў паніцы разбегліся. Потым адзін з іх, Габрыель Віер, вярнуўся з вёскі ў акупірава-

ны горад і пачаў парадкаваць фонды. Але паколькі ён не ведаў нямецкай мовы, немцы прыходзілі ў музей і нахабна бралі, што ім хацелася. Таму гарадскія ўлады рашылі замяніць кіраўніцтва, прызначылі чалавека, які валодаў нямецкай мовай. Але і пры А.Шукялайці музей не раз цярпеў ад акупантаў. Найперш ім кінуліся ў вочы старадаўнія гарматы — I6 з нясвіжскіх збораў Радзівілаў і тры з мінскай калекцыі. Даведаўшыся аб іх магчымым вывазе, А.Шукялайць зрабіў падрабязнае апісанне. Па загаду ваенных уладаў гарматы павінны былі пайсці на пераплаў. Але на гэта ўжо не хапіла часу. Па адной версіі (прынамсі дзве з іх) засталіся ў Кобургу і знаходзяцца там да сённяшняга дня, па другой — яны трапілі ў Польшчу.

Затым немцы загадалі адправіць у Аўстрыю, у венскі Інстытут гэбраістыкі, карціны, кнігі, рукапісы, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, рэлігійнага культу, звязаныя з яўрэйскай культурай. З дапамогай вязняў мінскага гета А.Шукялайць зноў склаў падрабязнае апісанне (на беларускай і яўрэйскай мовах), якое захавалася да нашых дзён. Такім чынам, ёсць усе падставы пачаць у Вене пошукі вывезенай калекцыі (нібыта Інстытут той захаваўся — толькі пад зменёнай шыльдай). Тым больш, што ў ёй знаходзілася каля дваццаці палотнаў вядомых мастакоў — Пэна ("Гадзіннікар"), Кругера (партрэт Скарыны), Шагала, Юдовіна (у спісе яны не значацца, але А.Шукялайць дакладна памятае, што яны былі вывезены ў Аўстрыю).

Урэшце, у чэрвені I944 г. з ведамства Розенберга прыйшоў загад цалкам эвакуіраваць зборы Мінскага музея. Шукялайць тады ў ім ужо не працаваў (перайшоў у школьніцтва), і вывазам кіравала немка Эма Гаўпт. Пад яе наглядам экспанаты ўпакавалі ў скрынкі і адправілі спачатку ў Інстэнбург (Усходняя Прусія), а затым — Гехштэт (каля Ульма на Дунаі). А.Шукялайць спрабаваў туды, у гехштэцкі замак, дабрацца, але Э.Гаўпт яго не пусціла. У I945 г. пасля вызвалення горада саюзнікамі, у Гехштэт прыбыла спецыяльная савецкая камісія. Аднак спецыялістаў у ёй не было. Таму грузілі экспанаты без разбору, блытаючы беларускае з украінскім і рускім. Тады ж загінуў каштоўны абраз з Мінскага музея пад назвай "Страшны Суд" (ці "Апошні суд").

Сляды мінскіх, баранавіцкіх і іншых збораў, вывезеных немцамі ў вайну, могуць быць адшуканы сёння прынамсі ў трох архівах. Найперш, у Федэральным архіве ў Кобленцы, дзе захоўваюцца

дакументы гітлераўскіх улад у Беларусі (у тым ліку фонды Розенберга). Затым — сярод папераў нямецкага шукальніка Г.Штайна, якія цяпер, пасля яго загадкавай смерці, перададзены ў Калінінград (камісія "Вяртанне" ужо атрымала адтуль некалькі мікрафільмаў). Урэшце, дакументацыя акупацыйных улад ёсць у ЗША: яна добра каталагізавана, аднак за заказ копій трэба плаціць немалыя грошы.

Каб закончыць гаворку пра лёсы экспанатаў Мінскага музея, вярнуся яшчэ на момант да апошняга ліста Антона Шукялайця. Ён піша, пры Э.Гаўпт там яшчэ захоўваўся бюст М.Багдановіча работы А.Грубе. Зроблены ён быў з гіпсу, маляванага на бронзавы колер. Потым гэтую скульптуру, якая вельмі пацабалася наведвальнікам, узяў з музея кіраўнік Беларускага культурнага таварыства А.Калубовіч і перавёз у будынак цяперашняй Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі, дзе бюст застаўся пасля вайны (сёння ён вядомы толькі па нямецкаму здымку). І яшчэ след. Па словах А.Шукялайця, "ахапкі" старых беларускіх царкоўных кніг Э.Гаўпт аддала з музея архімандрыту Серафіму з "Духаўскага манастыра"...

Беларускія матэрыялы трапялі ў Германію і да другой сусветнай вайны. У Вольфенбітэлі апынулася бібліятэка польскага караля і Вялікага князя Літоўскага Станіслава Аўгуста (туды іх вывезла яго сястра, княгіня Браўншвейгская). З апісанняў вядома, што ў гэтай бібліятэцы захоўваліся беларускія старадрукі і рукапісы. У Дрэздэне, у Саксонскай бібліятэцы аказаліся музычныя творы кампазітара ХУШ ст. Мацея Радзівіла, які жыў у Беларусі і пісаў аперэты для мясцовых прыдворных тэатраў. У Гамбургу трэба шукаць беларускія рукапісы і акты ХУІ-ХУШ стст., вывезеныя ў 1916-17 гг. з Вільні нямецкімі акупацыйнымі ўладамі для Каланіяльнага інстытута, што тады ствараўся.

Урэшце, у Германіі, у невялікім гарадку Ляймен, што ля Гейдэльберга, існуе Беларускі музей, створаны стараннямі пісь-

менніка Юрыя Попкі. Адкрыццё яго адбылося у верасні 1983 г. Пры музеі узнік Інстытут беларусаведы, пачау выдавацца штогоднік. Паступова назапашваліся рукапісныя фонды (творы таленавітага паэта Хведара Ілляшэвіча і інш.). Пасля смерці Ю.Попкі музей перайшоу пад апеку гарадскіх улад, а у будучыні можа ператварыцца у беларуска-нямецкі культурны асяродак. Што ж датычыцца рукапісау, то з іх трэба зрабіць ксеракопіі або мікрафільмы, каб яны былі даступныя даследчыкам Беларусі.

Такім жа шляхам, праз капіраванне, навуковае апісанне, выданне, дэманстрацыю на абменных выставах, мы павінны вяртаць на радзіму іншыя нацыянальныя скарбы, на якія не маем юрыдычных правоу. А такія нашы духоуныя і матэрыяльныя здабыткі раскіданы літаральна па усіх краінах Заходняй Еуропы. Іх, старых кніг, рукапісау, зброі, карцін, асабліва многа у бібліятэках, музеях і прыватных замках Швецыі, куды яны былі вывезены у час "патопу" сярэдзіны ХУІІ ст. і Паўночнай вайны (у іх ліку — унікальны друкаваны дадатак да карты Беларусі і суседніх краін жыхара Нясвіжа Т.Макоускага). У Ватыкане павінны захоувацца рукапісы магілёускага архібіскупа С.Богуша-Сестранцэвіча (дзядзькі В.Дуніна-Марцінкевіча) і сярод іх — адзін з першых беларускіх слоунікау. У Лондан трапіу трон слуцкіх князёу, зроблены са слановай косці і прададзены на адным з еурапейскіх аукцыёнау. У Парыжы ці яго прыгарадзе, ва удавы былога прэзідэнта БНР М.Абрамчыка, павінен знаходзіцца архіу БНР, сфарміраваны у Празе і вывезены адтуль у 1945 г. у Швейцарыю ці Францыю. Беларускія матэрыялы (рукапісы Вінцэся Каратынскага) ёсць нават у далёкай Партугаліі.

Асобная тэма гаворкі (тут яна намечана толькі пункцірна) — беларусіка у амерыканскіх зборах. Гэта і творы беларускіх мастакоу, скульптарау, збраяроу. Гэта і "палескі" архіу прафесара Атрэмбскага ва універсітэце штата Масачусетс. І рукапісы беларускіх пісьменнікау (да прыкладу В.Каваля), якія трапілі у Нацыянальны архіу ЗША разам са Смаленскім архівам. І, усё яшчэ магчыма, крыж Ефрасінні Полацкай.

## 3. У бліжэйшых суседзяу

Асобнай гаворкі патрабуюць беларускія духоуныя і матэрыяльныя скарбы, якія знаходзяцца у нашых суседзяу на захадзе і поудні. Гістарычныя лёсы Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны так

узаемазвязаны, што часта цяжка, а то і зусім немагчыма дакладна вызначыць, каму належыць тая ці іншая каштоўнасць. Сярод іх ёсць нямала такіх, што ўваходзяць у агульную спадчыну двух або і трох народаў. У такіх выпадках трэба ставіць пытанне не столькі пра вяртанне, колькі пра супольнае выкарыстанне (шляхам даследавання, публікацыі, дэманстрацыі на выставах і г.д.).

Пачнем (у алфавітным парадку) з Літвы. Адным з найбольшых і найбагацейшых збораў беларускіх старажытнасцяў з"яўляўся Віленскі беларускі музей, створаны адразу ж пасля першай сусветнай вайны братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі ў так званых базыльянскіх мурах, дзе месцілася і Віленская беларуская гімназія. Потым ён папаўняўся экспанатамі з усёй Заходняй Беларусі. Можна доўга пералічаць, што знаходзілася ў музеі — ад пярсцёнка полацкага князя Усяслава Чарадзея да архіва "Нашай нівы" (усяго — больш 28 тысяч адзінак захавання). Асабліва каштоўнымі былі калекцыі беларускіх старадрукаў (уключаючы выданні Ф.Скарыны і Літоўскі статут 1588 г.), рукапісаў (Евангелле XIУ ст. з Наваградчыны, жыровіцкі трэбнік 1495 г., статут цэісненскага брацтва XУII ст., каралеўскія прывілеі і інш.), мастацкіх палотнаў, народнага ткацтва, твораў дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння (слуцкія паясы, урэцкае і налібоцкае шкло, вырабы з гродзенскіх мануфактур А.Тызенгаўза). Усё гэта было акуратна каталагізавана, падрабязна апісана ў 1943 і 1944 гг. (адзін з вопісаў рабіў літоўскі мастацтвазнавец Уладас Дрэма). Экспанаты музея грунтоўна даследаваны ў многіх даваенных і пасляваенных працах.

Драматычнымі былі лёсы музея ў гады акупацыі. Немцы арганізавалі ў базыльянскіх мурах шпіталь для вайскоўцаў. Таму экспанаты давялося ўпакаваць у скрыні і перавезці ў падзямеллі касцёла св.Міхала. У час ваенных дзеянняў у ліпені 1944 г. скрыні аказаліся без нагляду, іх нехта паадчыняў. Некаторыя экспанаты зніклі (не выключана, што іх вывезлі гітлераўцы). Большасць жа ацалела. Аднак літоўскія савецкія ўлады не мелі намеру аднаўляць музей. У 1945 г. была створана сумесная, беларуска-літоўская ліквідацыйная камісія, куды ад Беларусі трапілі некампетэнтныя і незацікаўленыя людзі. У выніку зборы былі падзелены. Нязначная іх частка (рукапісны фонд "Нашай нівы", перыёдыка) трапіла ў Мінск, дзе была на доўгія гады засакрэчана. Асноўныя ж каштоўнасці дасталіся Цэнтральнай бібліятэцы АН Літ-

вы (рукапісны фонд № 21, старадрукі, перыёдыка; частка збораў згружана на паддашку і практычна недаступная для даследчыкаў) і Літоўскаму гісторыка-этнаграфічнаму музею (дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, ткацтва).

На пачатку 60-х і ў канцы 80-х гадоў рознымі беларускімі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі рабіліся захады, каб усе зборы Віленскага беларускага музея вярнуць у Беларусь, засяродзіць у Мінску. Але сёння такая ідэя выклікае законнае пярэчанне як беларусаў Вільнюскага краю (гэта частка іх спадчыны, доказ іх гістарычнай прысутнасці), так і літоўцаў (фонды ўсё ж фарміраваліся ў іх сталіцы). Таму, відаць, найлепшым вырашэннем было б адраджэнне музея ў тых базыльянскіх мурах — як культурнага асяродзя, што спрыяў бы беларуска-літоўскаму ўзаемадзеянню і ўзаемаразуменню. А са зборамі яго можна было б знаёміцца ў Мінску як шляхам арганізацыі выстаў, так і капіравання.

З гэтага не вынікае, нібы ў Літве няма нічога, на што беларусы маюць юрыдычнае ці маральнае права. Наша грамадскасць з ухвалай сустрэла б перадачу урадам Літвы Тураўскага Евангелля, вывезенага з Турава ў 1862 г. царскімі уладамі без ніякіх на тое падстаў (цяпер яно захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы), пячаткі Мінскага трыбунала, акта пра наданне Мінску магдэбургскага права, а таксама прадметаў беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія ў 60-70-я гады былі памылкова перададзены з Масквы, з Дзяржаўнага гістарычнага музея, у вільнюскія сховішчы. У сваю чаргу літоўскаму боку могуць быць перададзены, скажам, пратаколы пасяджэнняў сената Вільнюскага універсітэта, якія ў нас аказаліся таксама выпадкова.

Многа беларускіх музейных экспанатаў, а таксама старадрукаў і рукапісаў у сховішчах суседняй Польшчы. Некаторыя з іх, да прыкладу музей Гутэн-Чапскіх і Чартарыскіх у Кракаве, у асноўным заснаваны на зборах, перавезеных з Беларусі (Станькава пад Мінскам, Аршаншчына). Але паколькі такая была воля іх уладальнікаў, то гаварыць пра вяртанне сэнсу не мае. Тое ж датычыцца шматлікіх экспанатаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве (карціны Ф.Рушчыца, В.Ваньковіча і інш.), музеі Войска Польскага (вядома, беларусы былі б вельмі ўдзячныя, калі б адтуль — як акт добрай волі — быў перададзены адзін з паўстанцкіх сцягоў каліноўшчыкаў), Торуньскім этнаграфічным музеі, Курніцкім замку і г.д. Многа беларускіх рукапісаў і дакументаў

знаходзіцца ў Цэнтральным архіве старажытных актаў у Варшаве (фонды Прозараў і Ельскіх, Радзівілаў), бібліятэцы Рачыньскіх у Познані (кодэкс XVI ст.), бібліятэцы Варшаўскага універсітэта (фонд вядомага фальклрыста М.Федароўскага), вроцлаўскім Асалінэуме (мемуары, беларускія школьныя інтэрмедыі). Усё гэта, безумоўна, цікавіць беларускіх даследчыкаў. Але задаволіць іх інтарэсы мог бы і "рэжым найбольшага спрыяння" у навуковых камандзіроўках ды ўзаемаабмен ксеракопіямі і фотакопіямі (наколькі мне вядома, польскіх вучоных цікавяць радзівілаўскія дакументы, якія захоўваюцца ў Мінску, гродзенскія архіўныя зборы і інш.).

Інакш выглядаюць справы з каштоўнасцямі, якія былі вывезены ў Польшчу ў 1920 г., перад наступленнем Чырвонай Арміі, Мінскім колам таварыства аховы помнікаў. Тады з навакольных маёнткаў былі сабраны карціны, крышталь, фарфор, тканіны, зброя, кнігі, археалагічныя знаходкі. Усяго набралася 36 тысяч экспанатаў. Усё гэта было ўпакавана ў 600 скрыняў і адпраўлена ў Варшаву, дзе выстаўлялася для шырокай публікі. Там жа трэба шукаць і апісанні вывезенага.

З сённяшніх пазіцый уяўляецца незаконным тое, што было зроблена ў жніўні 1950 г. Па камандзе з Масквы тады ўраду Баляслава Берута перадалі 89 партрэтаў з былой галерэі Радзівілаў у Нясвіжы, якія захоўваліся у Мінску. Як відаць з выяўленага нядаўна апісання, перадача рабілася адвольна. У Варшаву паехалі палотны, звязаныя з гісторыяй Беларусі, у Мінску засталіся ж некаторыя партрэты з выявамі прадстаўнікоў польскіх арыстакратычных родаў. Недарэчнасць гэтага валюнтарысцкага і патаемнага рашэння асабліва кідаецца ў вочы сёння, калі ў суверэннай Беларусі ставіцца пытанне пра аднаўленне Нясвіжа як музейнага комплексу, як помніка дойлідства сусветнага значэння.

Не можа таксама не трывожыць лёс бібліятэкі з полацкай Сафіі. У выніку ваенных дзеянняў яна была вывезена ў Замосце, уключана ў зборы Замойскіх, а цяпер знаходзіцца ў Кракаве.

Урэшце, трэба прадоўжыць пошукі васьмі скрынак з беларускімі рукапісамі і кнігамі, якія былі ў часы фашысцкай акупацыі вывезены з варшаўскай кватэры беларускага бібліяфіла Рамуальда Зямкевіча (вул.Хмельна, 16) пасля таго, як ён быў арыштаваны і высланы ў Асвенцым. У тых скрынках было многа рарытэтаў мінскага і віленскага паходжання (часам калекцыянер іх проста

краў у бібліятэках і архівах).

Сярод беларусікаў на Украіне вылучаецца бібліятэка Храптовічаў, укамплектаваная ў ХУШ ст. з беларускіх і заходнееўрапейскіх старажатнасцяў у Шчорсах на Наваградчыне. У першую сусветную вайну, перад наступам немцаў, яна была перададзена ў Кіеў на часовае захаванне. Паколькі ўладальнікі завяшчалі бібліятэку першаму ўніверсітэту, які адчыніцца на іх радзіме, у 20-я гады паспяхова ішлі перамовы паміж урадамі УССР і БССР аб вяртанні яе ў Беларусь, у Мінск. Аднак потым часы змяніліся, а пасля вайны бібліятэка ўвогуле знікла з поля зроку (лічылася нават, што яна была вывезена ў Германію). Аднак нядаўна члены камісіі "Вяртанне" Т.Рошчына і А.Фурс выявілі яе ў зборах украінскай акадэмічнай бібліятэкі (усяго 5,5 тыс.рэдкіх кніг і 129 рукапісаў). Мяркую, што цяпер праблем па вяртанню шчорсаўскіх збораў (найбольш лагічна — у Гродзенскі ўніверсітэт) не павінна ўзнікнуць.

Больш складаныя справы з беларусікамі ў Львове. У свой час туды былі нелегальна вывезены зборы мінскага калекцыянера Генрыка Татура, іншыя беларускія калекцыі. Нядаўна маладым мастацтвазнаўцам А.Хадыкам былі ў Львове выяўлены іх апісанні. Але паколькі беларускія каштоўнасці часцей за ўсё купляліся, паколькі збіранне беларусікаў у Львове звязана з асобай Іларыёна Свянціцкага, то вяртанню тут ёсць альтэрнатыва: стварэнне, як і ў Вільнюсе, асобнай беларускай экспазіцыі, своеасаблівага беларускага культурнага асяродка.

І яшчэ адзін факт, хутчэй кур"ёзны. У свой час, калі па сцэнарыю У.Караткевіча здымаўся фільм "Дзікае паляванне караля Стаха", кінематаграфісты часова і без нічыей згоды ўзялі ў Гродне тры драўляныя скульптуры і перавезлі іх для "натуры" ў Алескі замак пад Львовам. Там яны застаюцца і да сённяшняга дня.

### 4. У сховішчах Расіі

Цяпер настаў час паразважаць пра тое, што пайшло на ўсход і поўнач, у сховішчы Расіі. Калі скрупулёзна падлічыць усё беларускае, што знаходзіцца ў музеях,бібліятэках і архівах Санкт-Пецярбурга, Масквы і іншых гарадоў усходняй суседкі, то можа аказацца, што нашага дабра там больш, чым у самой Беларусі.

Помнікі беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры трап-

лялі ў Расію, найперш у яе сталіцы, пераважна ў выніку ваенных дзеянняў. Пачалі гэтую справу войскі Івана Грознага (полацкія зборы) і Аляксея Міхайлавіча (куцеінская друкарня), прадоўжылі ж тыя, хто падаўляў паўстанні 1795, 1830-31 і 1863-64 гадоў. Многа каштоўнасцей было эвакуіравана на ўсход на пачатку першай і другой сусветных войнаў. У Расіі засталася частка з таго, што было спачатку вывезена з Беларусі ў Германію, а потым пайшло ў агульным патоку на ўсход. Урэшце, у абедзвюх сталіцах канцэнтравалася ўсё тое, што знаходзілі на нашай зямлі шматлікія навуковыя экспедыцыі. Без згоды беларусаў, а потым без згоды ўрада БССР яны забіралі з сабою рукапісы, кнігі, археалагічныя калекцыі, вырабы народных майстроў. Вядома, ёсць у зборах Расіі экспанаты з Беларусі, падараваныя, завешчаныя або перададзеныя туды іх непасрэднымі ўладальнікамі. І ставіць пытанне аб іх вяртанні ў такіх выпадках было б нелагічна і неэтычна. Аднак не пра такія выключэнні ідзе тут гаворка. Давайце засяродзімся на тым, што было ўзята ваеннаю сілаю або без адпаведнага на гэта права, у парушэнне пісаных і няпісаных законаў.

На працягу ХУШ і XIX стагоддзяў рэквізаваныя і канфіскаваныя беларускія каштоўнасці вывозіліся пераважна ў Пецярбург. Так, у Эрмітаж і іншыя сховішчы Мікалай I загадаў перадаць творы мастацтва, кнігі і рукапісы, дастаўленыя ў сталіцу з палаца Сапегаў на Гродзеншчыне пасля падаўлення паўстання 1831 - 32 гг. У Эрмітажы таксама знаходзяцца вырабы Налібоцкай і Гродзенскай шкляных мануфактур ХУШ ст., флакон і кубак XII ст., выяўленыя Ф.Гурэвіч пры раскопках у Навагрудку, бронзавыя ўпрыгожанні з эмалямі, знойдзеныя на нашай тэрыторыі. Вываз гэтых знаходак адпаведным чынам не афармляўся. Як і вываз беларускіх народных касцюмаў, сабраных экспедыцыямі пецярбургскага Этнаграфічнага музея.

У Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына, бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук і універсітэцкай бібліятэцы ёсць многа кніг і рукапісаў, вывезеных з Нясвіжа (у час ваенных дзеянняў 1792-95 і 1812) і Полацка (пасля падаўлення паўстання 1831-32 гг.). Іх лёгка выявіць па экслібрысах і ранейшых каталогах. Патрэбна таксама пошукавая работа ў зборах Музея атэізму (здаецца, ужо былога), дзе захоўваліся ўнікальны сонечны гадзіннік і старадаўнія абразы, якія раней належалі

Полацкай акадэміі.

Сярод маскоўскіх сховішчаў найбольш беларускіх каштоўнасцяў мае Дзяржаўны гістарычны музей (ДГМ), што на Краснай плошчы. Па прамых і ўскосных звестках у яго фондах (пераважна ў запасніках) знаходзяцца калекцыя слуцкіх, нясвіжскіх і гродзенскіх паясоў, вывезеных у розны час з Беларусі (агульным лікам каля трохсот), кубкі і келіхі, выробленыя ў ХУШ ст. на шкляной мануфактуры ў Налібоках, абразы з Гродна, Магілёва і іншых гарадоў, беларускія археалагічныя калекцыі В.Завітневіча, А.Кіркора, М.Кусцінскага, Ф.Пакроўскага, Е.Раманава, К.Тышкевіча, С.Чалоўскага і інш., зброя наваградскай і ружанскай калекцый, аршанская кальчуга, знойдзеная ў 1858 г. У ДГМ ёсць 84 экземпляры выданняў Ф.Скарыны (сярод іх — многа дублетных), кнігі іншых беларускіх асветнікаў, пісьмовыя крыніцы па гісторыі паўстання 1863-64 гг., альбомы роду Радзівілаў і шмат чаго іншага.

У ДГМ і іншыя сховішчы Масквы як сталіцы трапілі таксама шматлікія клады (скарбы), знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі ў даваенны і асабліва пасляваенны час.

Гаворачы пра маскоўскія зборы, хацелася б таксама вылучыць Дзяржаўную бібліятэку Расіі (раней — СССР), якая мае ў сваіх фондах 82 экземпляры выданняў Ф.Скарыны (зноў жа — многа дублетных), калекцыю магілёўскіх календароў ХУШ ст. і інш. У філіяле бібліятэкі ў Хімках ёсць дублетныя падшыўкі беларускіх перыядычных выданняў 20-50 гадоў, адсутных у Беларусі.

З іншых маскоўскіх устаноў адзначым Дзяржфільмафонд Міністэрства культуры і Архіў кінафотафонадакументаў (дакументальныя фільмы, прысвечаныя даваеннай Беларусі), Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў (так званая Літоўская метрыка — збор дзяржаўных актаў на старабеларускай мове), Музей архітэктуры імя Шчусева (самы вялікі збор беларускіх паштовак дасавецкага часу).

У Маскве трэба шукаць сляды прыватных збораў, вывезеных туды з Беларусі ўладальнікамі ў час першай сусветнай вайны — калі пагражала наступленне немцаў. Найперш гэта — два вагоны з калекцыямі Цеханавецкіх з Бачэйкава на Віцебшчыне (калі б яны знайшліся, нашчадак роду, доктар Анджэй Цеханавецкі, які жыве ў Лондане, гатовы перадаць іх беларускім музеям). Потым — зборы Гутэн-Чапскіх са Станькава і Храптовічаў-Буцянёвых з Бе-

шанковічаў. Іх маёмасць была здадзена ў Маскве на прыватныя склады, а пасля рэвалюцыі, відаць, нацыяналізавана.

Калі гаварыць пра рускія гарады, асаблівую ўвагу трэба звярнуць таксама на Валгаград і Саратаў. У першым з іх засталіся экспанаты Гомельскага абласнога музея, затрыманыя Сталінградскім абласным музеем пры рээвакуацыі каштоўнасцяў у маі 1946 г. Захаваўся спіс гэтых экспанатаў, у якім значыцца 86 пазіцый. Сярод іх -- карціны "Забойства Стэфана" і "Сцэна з Персідскай вайны", мармуровая скульптура Леанарда да Вінчы, тры чугунныя і пяць бронзавых гармат, сярэбраныя падсвечнікі, шкатулкі і келіхі, крыжы і ордэны. У Саратаве ж засталіся вывезеныя на пачатку Вялікай Айчыннай вайны з Віцебскага і Мінскага музеяў творы беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў.

Беларускія каштоўнасці ёсць таксама ў Арле (дзесяць партрэтаў Галынскіх і Цеханавецкіх), Пскове (выданні магілёўскай друкарні), Смаленску (палотны XVI-XVIII стст. з прыватнай галерэі Сапегаў), у некаторых уральскіх і сібірскіх гарадах.

Зразумела, далёка не ўсе пералічаныя вышэй помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў мы зможам вярнуць з Расіі назад -- у адным выпадку не стае юрыдычных падстаў, у другім -- дакументальных пацверджанняў. І тут даводзіцца ісці на кампрамісы, абмежавацца выяўленнем помнікаў, стварэннем (у межах рускіх збораў) спецыяльных беларускіх фондаў і калекцый, навуковым апісаннем, капіраваннем (абавязкова -- для нас бясплатным), дэманстрацыяй на абменных выставах (таксама для нас бясплатных).

Аднак у большасці выпадкаў мы маем права патрабаваць, каб вывезеныя скарбы былі аддадзены (без тэрміну даўнасці) іх законнаму, спадчыннаму ўладальніку -- Рэспубліцы Беларусь -- так, як гэта і прадугледжана ў "Пагадненні пра вяртанне культурных і гістарычных каштоўнасцяў дзяржавам іх паходжання", падпісаным у Мінску 14 лютага 1992 года ўсімі кіраўнікамі дзяржаў, што ўваходзяць у Садружнасць. Паколькі тэкст гэтага "Пагаднення" дагэтуль застаўся неапублікаваным і паколькі вакол яго разгарнуліся цэлыя баталіі, у якіх, аднак, не прыводзяцца цытаты, дазволю сабе зрабіць некалькі вытрымак з гэтага важнага дакумента (тым больш, што ніякага грыфа сакрэтнасці на ім няма і быць не магло).

У прэамбуле "Пагадненне" гаворыцца, што дзяржавы – удзельніцы Садружнасці ўсведамляюць усё значэнне "вяртання культурных каштоўнасцяў", прымаюць пад увагу адпаведныя рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН, а таксама Канвенцыі ад 14 лістапада 1970 г. і таму пацвярджаюць, што "вяртанне народам іх твораў мастацтва, помнікаў, музейных экспанатаў, архіваў, рукапісаў, дакументаў і іншых рарытэтаў культуры і гісторыі будзе служыць высакароднай задачы адраджэння нацыянальных культур, захавання і далейшага развіцця ўсеагульных культурных каштоўнасцяў і садзейнічаць умацаванню супрацоўніцтва паміж незалежнымі дзяржавамі". Першы артыкул "Пагаднення" абвяшчае: "Дзяржавы-удзельніцы будуць садзейнічаць вяртанню культурных і гістарычных каштоўнасцяў краінам іх паходжання". Другі артыкул датычыцца заснавання Міжурадавай камісіі для стварэння адпаведнага механізма і практычнай работы, трэці — заснавання нацыянальных камісій па складанню "сістэматычных апісанняў культурных і гістарычных каштоўнасцяў", чацвёрты — прадстаўлення магчымасці "экспертам нацыянальных камісій пазнаёміцца з фондамі дзяржаўных музеяў, бібліятэк і архіваў адзін аднаму", пяты — забеспячэння захаванасці "культурнай спадчыны нацыянальных меншасцей і народаў іншых дзяржаў", шосты — садзейнічання абмену "узаемных ведаў". Урэшце, сёмы артыкул сведчыць, што "пагадненне ўступае ў сілу з моманту яго падпісання".

І вось з моманту падпісання "Пагаднення" прайшло ўжо некалькі месяцаў, аднак мы нешта не адчуваем, каб ён уступаў у сілу. Больш таго, гэты неапублікаваны дакумент сустрэў рэзка адмоўную рэакцыю рускіх сродкаў масавай інфармацыі. 17 сакавіка па першай праграме маскоўскага тэлебачання было заяўлена, што расійскі ўрад не згодзіцца з гэтым "Пагадненнем", што яно, маўляў, супярэчыць міжнароднаму праву і інтарэсам... саміх рэспублік. Тое ж гаварылася ў наступныя дні, з"яўляліся аналагічныя публікацыі ў друку. У атаку былі кінуты лепшыя інтэлектуальныя сілы Расіі. Толькі невядома, супраць каго і чаго. Бо сам дакумент не цытаваўся. І зразумела чаму: у яго тэксце, вельмі спакойным і выверанам, гаворка ідзе аб ісцінах, бясспрэчных для кожнага цывілізаванага грамадства, аб вяртанні толькі т го, што было вывезена незаконна, што па праву належыць іншаму народу, іншай дзяржаве.

Як бачым, нашай бліжэйшай суседцы тут зноў не хапіла добрай волі. Зноў выявіліся імперскія памкненні, добра вядомыя нам па ранейшых часах.

Што ж рабіць нашаму грамадству ў такой парадаксальнай сітуацыі, калі адна з дзяржаў не лічыцца з дакументам, пад якім стаіць подпіс яе кіраўніка?

Найперш — усімі спосабамі дабівацца, каб прынятае "Пагадненне" выконвалася. А для гэтага дамагацца стварэння ўказаннай там Міжурадавай камісіі, стварыць (на дзяржаўным узроўні) нацыянальную камісію, куды маглі б увайсці (часткова або поўным складам) члены грамадскай камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры.

Урэшце, трэба заснаваць спецыяльную навукова-пошукавую структуру, якая выяўляла б адпаведныя матэрыялы ў архівах і рыхтавала б іх да друку, якая праводзіла б пашпартызацыю вывезеных каштоўнасцяў і ідэнтыфікавала б іх у экспазіцыях і запасніках музеяў. На адным энтузіязме, на грамадскіх пачатках такую велізарную і карпатлівую работу не выканаеш. Таму ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны было запланавана стварыць для гэтай мэты спецыяльны аддзел. Два супрацоўнікі нават ужо прыступілі да складання пошукавай картатэкі. Аднак перад Новым годам аказалася, што сродкаў для стварэння такога аддзела, хаця б невялікага, няма — ні ў Акадэміі навук, якой раней падпарадкоўваўся Цэнтр, ні ў Міністэрства адукацыі, якому ён падпарадкоўваецца цяпер. Таму застаецца адзіная надзея на Міністэрства культуры, найбольш зацікаўленае ў такой праблематыцы. Папярэднія перамовы з ім усяляюць надзею, што ўвесь гордзіеў вузел будзе нарэшце рассечаны. Часткова фінансаваць усю справу, прынамсі, пакрываючы камандзіровачныя расходы, пагадзіўся таксама Беларускі фонд культуры.

Вялікую работу па выяўленню беларускіх каштоўнасцяў за рубяжом праводзіць Міністэрства замежных спраў і асабіста Міністр П.Краўчанка. Бываючы за рубяжом, ён абавязкова цікавіцца іх лёсам. Вось і нядаўна з артыкула П.Краўчанкі ("Советская Белоруссия", II красавіка 1992 г.) мы даведаліся, што ў Фінляндыі і Швецыі, у мастака Аляксандра Ахала-Вала, які раней жыў у Мінску, захаваліся архіў Інбелкульта і каля дваццаці партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. Будзем спадзявацца, што з цягам часу яны будуць уладальнікам падараваны Цэнтру імя Ф.Скарыны, які з"яў-

ляецца пераемнікам традыцый Інбелкульта.

І яшчэ адна вельмі істотная справа. Міністэрства культуры і музеі павінны дбаць пра тое, каб нашы каштоўнасці, што выстаўляюцца на міжнародных аўкцыёнах, трапялі б у Беларусь. Нядаўна з публікацыі ў газеце "Коммерсант" (1992, № 3) стала вядома, што ў Маскве, на аўкцыёне "Альфа-Арт" прадаваліся пейзаж В.Бялыніцкага-Бірулі, афорт М.Шагала. Адна з карцін В.Бялыніцкага-Бірулі выстаўлялася таксама ў Лондане. Але нешта не чувалася, каб гэта зацікавіла нашых работнікаў культуры ці мецэнатаў-бізнесменаў. Між тым у іншых краінах такая зацікаўленасць -- звыклая, элементарная з"ява.

Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў, якое раней было клопатам толькі горсткі энтузіястаў, аб"яднаных вакол адной з камісій Беларускага фонду культуры, цяпер, у новых умовах суверэннай Беларусі, павінна, нарэшце, стаць справай дзяржаўнай, справай усяго грамадства.

ВЫСТУПЛЕННЕ П.К.КРАЎЧАНКІ,

міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь

Шаноўная грамада! Мне сёння прыемна прыняць удзел у рабоце пленума БТК.

З першых дзён працы ў якасці міністра я пачаў займацца тым, што хвалюе наш народ, нашу нацыю. 30 студзеня, выступаючы ў Празе, у час далучэння Рэспублікі Беларусь да Хельсінскага працэсу, далучэння да агульнаеўрапейскай сям"і, мы сфармулявалі некалькі тэзісаў. У тым ліку там прагучаў упершыню ў прысутнасці амаль 50 краін Еўропы тэзіс пра тое, што мы самая абдзеленая нацыя ў Еўропе. Нашы каштоўнасці, нашы святыні ці страчаны, ці знаходзяцца ў музеях, архівах, сховішчах іншых краін.

Я хацеў бы падзяліцца некаторымі назіраннямі, выказаць некалькі прапаноў пра больш рацыянальную арганізацыю нашай агульнай справы.

Перш за ўсё мне хацелася выказаць некалькі думак наконт пошукаў асноўнай нашай нацыянальнай святыні -- крыжа Ефрасінні Полацкай.

У 1990 годзе А.В.Мальдзіс быў уключаны ў склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі на Генеральнай асамблеі ААН з канкрэтнай мэтай: займацца пошукамі крыжа. Ён знаходзіўся ў Нью-Йорку

больш месяца і кожны дзень у яго была магчымасць сустракацца з нашымі суайчыннікамі, наведваць бібліятэкі, сховішчы. І практычна кожны дзень мы абмяркоўвалі вынікі пошукаў.

Тут усё дакладна прагучала наконт Моргана. Аднак потым, пасля ад"езду Мальдзіса, атрымалася непрыемная сітуацыя: кіраўніцтва Фонда Моргана, якое абяцала даць адказ літаральна праз сем-дзесяць дзён, куды мы накіравалі афіцыйны запыт пра крыж, рабіла ўсё магчымае, каб не даць адказ. Прыйшлося звяртацца да юрыста, у газету "Нью-Йорк таймс" і часопіс "Іфар". І Морганы вымушаны былі даць адказ.

Морганы адказалі адмоўна. Але гэта для нас у нейкім сэнсе ўсё ж вынік. Калі быў падрыхтаваны артыкул у "Нью-Йорк таймс", то гэта, практычна, было тактыкай ціску на Морганаў. І Морганы пра гэта даведаліся. Адказ, які цытаваў дакладчык, сведчыць пра тое, што нейкая эбянтэжанасць, нейкая ўсхваляванасць і незразумеласць усё-такі з боку Фонда Морганаў назіралася. У мяне склалася ўражанне, што Морганы хацелі нейкім чынам выцягнуць, якая дадатковая аргументацыя ў нас ёсць, якая казырная карта ў нас на руках. Таму што мы перадалі не толькі ліст, але і каляровую картку, якая зроблена нашай эміграцыяй. Гэта картка зроблена даволі прафесійна. Першае ўражанне такое, як быццам гэта картка зроблена не з адпаведнай манаграфіі Бранцава, выдадзенай у XIX стагоддзі, а, як быццам, яна магла быць зроблена ў 60-я — 80-я гады XX стагоддзя. У мяне склалася ўражанне, што морганаўскі след пошуку яшчэ павінен працягвацца.

Праз год знаходзіўся ў ЗША Патрыярх Усяе Русі Алексій. Мы ведалі, што ён будзе сустракацца з вельмі ўплывовымі амерыканцамі, бываць у фондах, музеях, а таксама сустракацца з вялікай колькасцю вернікаў. Я афіцыйна звярнуўся да Патрыярха Алексія з просьбай таксама прыняць удзел у пошуках такіх каштоўнасцей, як крыж Ефрасінні Полацкай. На вялікі жаль, афіцыйнага адказу мы не атрымалі. Некалькі раней, яшчэ ў сакавіку 1991 года я звяртаўся да яго таксама з лістом напярэдадні яго візіту на Беларусь.

Другая крыніца. Наша эміграцыя дала інфармацыю, што ёсць спецыяльная камп"ютэрная сістэма ўліку ўсіх каштоўнасцей, што знаходзяцца ў прыватных фондах. У Смітсанаўскім інстытуце нам далі адрас такога камп"ютарнага цэнтра, які знаходзіцца ў Каліфорніі. Туды мы накіравалі ліст. Пакуль што адказу не атрымалі.

Наступны момант. Восенню 1990 года мы сустракаліся з кіраўніцтвам спецыялізаванага часопіса "Іфар". Гэта часопіс, які выдзецца для музейных работнікаў, крымінальнай паліцыі (той, што займаецца пошукамі культурных каштоўнасцей), бібліятэк. Тыраж гэтага часопіса невялікі: паўтары тысячы экземпляраў. А.В.Мальдзіс падрыхтаваў адпаведны артыкул, даведку і картку пра крыж Ефрасінні Полацкай і мы змаглі ў красавіку 1991 г. праз беларускіх дыпламатаў памясціць гэту інфармацыю ў часопісе "Іфар". І гэты часопіс выйшаў. У нас ёсць нумар часопіса. Мы папрасілі, каб тыраж гэтага нумара часопіса "Іфар" быў павялічаны ў два разы. Мяне абнадзеілі, што будзе падрыхтавана дзве з паловай тысячы экземпляраў гэтага часопіса. Мы ведаем, што часопіс паступіў у многія фонды, бібліятэкі, архівы ЗША і іншых англамоўных краін.

І самае галоўнае. Я вырашыў афіцыйна звярнуцца ў Інтэрпол. Справа ў тым, што ў 1990 годзе былы Савецкі Саюз уступіў у Інтэрпол. Узнікла магчымасць аформіць нашу нацыянальную заяўку. На працягу сакавіка-чэрвеня 1990 г. вялася падрыхтоўчая праца. Зноў тут вельмі дапамагаў А.В.Мальдзіс. Я з удзячнасцю хачу сёння назваць і прозвішча міністра ўнутраных спраў У.Д.Ягорава, які зразумеў усё адразу. Не так проста было запоўніць неабходныя дакументы і спецыяльныя міжнародныя фармуляры. Мы звярталіся ў Галоўархіў, Магілёўскі музей, у Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Бо калі звяртаешся ў Інтэрпол, то ўсё павінна быць дакладным, павінны быць копіі адпаведных дакументаў. Усё гэта было сабрана, і ў чэрвені 1991 г. МУС РБ праз МУС тагачаснага СССР накіравала заяўку ў Ліён, дзе знаходзіцца камп"ютарны цэнтр Інтэрпола. І ўжо ў ліпені 1991 г. мы атрымалі нумар нашай нацыянальнай заяўкі — 34130.

Упершыню ў нашай нацыянальнай гісторыі мы пачалі шукаць нашу нацыянальную каштоўнасць прафесійна, на міжнародным узроўні, падключыўшы самыя моцныя, самыя сур"ёзныя міжнародныя рычагі. Мы раней не ведалі, што Інтэрпол займаецца не толькі крымінальнымі справамі, але і вяртаннем тых каштоўнасцей, якія былі выкрадзены. І тут нам прыходзіцца вучыцца. Палякі толькі за апошнія гады вярнулі такім чынам каля дзесятка нацыянальных каштоўнасцей, якія былі вывезены гітлераўцамі ў час другой

сусветнай вайны. І яшчэ адзін афіцыйны напрамак. У час знаходжання ў Парыжы ў красавіку 1991 г. я сустрэўся спецыяльна толькі па двух пытаннях (Мірскі замак і крыж Ефрасінні Полацкай) з Генеральным дырэктарам ЮНЕСКА панам Фрэдэрыкам Маёрам. Потым ён прыязджаў, вы ведаеце, у час святкавання 100-годдзя Максіма Багдановіча ў Беларусь, дзе мы мелі гутарку і дамовіліся, што ЮНЕСКА таксама афіцыйна ўключаецца ў пошукі крыжа Ефрасінні Полацкай. Падрыхтаваны быў інфармацыйны ліст. ЮНЕСКА валодае вельмі развітой сістэмай інфармацыі і пошукаў. Маецца на ўвазе і часопіс "Кур"ер ЮНЕСКА", і іншыя часопісы, бюлетэні, у якія пайшла інфармацыя пра крыж Ефрасінні Полацкай.

Калі падагульніць, то можна сказаць, што ў нас ёсць пэўная сістэма пошуку крыжа Ефрасінні Полацкай. Восенню мінулага года я ехаў у Нью-Йорк, ускладаючы нейкія надзеі на іншыя прыватныя фонды. І сёння гэты напрамак яшчэ да канца не давецзены. Мы павінны разумець, што гэта пытанне звязана з прыватным правам, і што ёсць асобы, сем"і, якія не заўсёды раскрываюць свае таямніцы.

Але я ўсё больш схіляюся да думкі, што крыж нам трэба вельмі актыўна і прафесійна шукаць на былой палітычнай прасторы Савецкага Саюза, і, перш за ўсё, у Маскве і іншых месцах. Некаторыя прадстаўнікі нашай эміграцыі ў прыватных гутарках гаварылі пра тое, што адкідваць гэту версію сёння не трэба. Наша міністэрства будзе сур"ёзна займацца і гэтай справай.

Сярод іншых напрамкаў дзейнасці я б вызначыў, перш за ўсё, нашы адносіны з суседняй Польшчай. Польскі бок вельмі зацікаўлена, вельмі актыўна, нават звышактыўна ставіць пытанне пра тэрміновае падпісанне двухбаковага культурнага пагаднення паміж Польшчай і Беларуссю, у тым ліку і ў кантэксце вяртання культурных каштоўнасцей. Разумею, што перш за ўсё трэба разабрацца: што можам вярнуць, што не можам вярнуць, на што нам трэба прад"яўляць прэтэнзіі. Наступае такі час, калі на польскім напрамку нам трэба працаваць таксама звышактыўна. Не думаю, што агульны баланс вяртання культурных каштоўнасцей будзе складацца на карысць Польшчы. Перакананы ў адваротным. Адзінае, што сёння мы не можам дакладна абгрунтаваць нашы пазіцыі. Не

заўсёды ў нас ёсць, як гаворыцца, дакументы на руках. Хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на тое, што па Рыжскаму пагадненню 1921 года Расія перадала Польшчы велізарную колькасць культурных каштоўнасцей. Гэта -- архівы, бібліятэкі, экспазіцыі музеяў, асобныя каштоўнасці. І ў архівах не толькі Мінска, але і іншых месцаў захаваліся спісы ўсяго таго, што перадавалася. Па сутнасці нам трэба ствараць прафесійную групу толькі на адным польскім напрамку. Не гавару пра ўсё астатняе, таму што час падвіжніцтва, таго, што робіць Адам Восіпавіч, мінае. Дзякуй Богу, што ёсць такія людзі. Гэта выдатна! Але цяпер гэту справу трэба пераводзіць на прафесійныя рэйкі, таму што наперадзе вялізарная і вельмі адказная работа па пошуку вось гэтых крыніц інфармацыі.

Акрамя крыжа Ефрасінні Полацкай, нашы намаганні павінны быць накіраваны яшчэ на два прынцыповых напрамкі, якія тычацца нашага нацыянальнага гонару. Па-першае, вяртанне скарынаўскіх першадрукаў, якіх налічваецца ў свеце некалькі сотен. У нашай рэспубліканскай бібліятэцы, калі я не памыляюся, крышку больш дзесяці фрагментаў такіх першадрукаў. Практычна ні адна з гэтых кніг у поўным аб"ёме не захавалася. У той час у Львове, Вільні, Санкт-Пецярбургу, Маскве (я не гавару пра Капенгаген, Кракаў, Вашынгтон і іншыя замежныя гарады) знаходзяцца скарынаўскія першадрукі і іншыя цікавыя рэчы. Трэба выпрацаваць тактыку вяртання ўсяго таго, што звязана з Францыскам Скарынам.

Па-другое, вяртанне слуцкіх паясоў. Дзякуй Богу, што Цеханавецкі зрабіў такі вельмі прыгожы крок. Але тая лічба, што была названа сёння А.В.Мальдзісам -- 300 слуцкіх паясоў у гістарычных музеях і толькі адзін -- у Беларусі, - выклікае здзіўленне. Міністэрства замежных спраў РБ гатова пачаць канкрэтную працу з адпаведнымі ўстановамі Расіі, Украіны, Літвы па вяртанню культурных каштоўнасцей. Нам патрэбны адпаведна афармленыя дакументы, гістарычныя даведкі, аргументацыя і афіцыйныя лісты. Перш за ўсё, афіцыйныя лісты Міністэрства культуры, Галоўархіва, Беларускага фонду культуры. Павінен быць дадзены першы штуршок. Не трэба чакаць нейкай урадавай пастановы -- яна можа з"явіцца, а можа і не з"явіцца. Акрамя тых, хто прысутнічае ў гэтай зале, мне здаецца, не шмат знойдзецца людзей, якія б маглі вельмі зацікаўлена зай-

мацца гэтай справай. І калі будзе адпаведная інфармацыя, лісты, Міністэрства замежных спраў можа пачынаць гэту работу.

Ёсць тэрмін даўнасці вяртання культурных каштоўнасцей. Але, з другога боку, ёсць і вельмі многія міжнародныя дакументы пра магчымасці вяртання культурных каштоўнасцей, якімі мы яшчэ ў поўнай меры не авалодалі. Я разумею, што немагчыма парэзаць на кавалкі алмазы і залаты фонд былога Саюза. Але калі не могуць вярнуць матэрыяльную частку таго, што нам належыць па праву, то ёсць паняцце грашовых кампенсацый. Тут правільна ставілася пытанне і аб вяртанні многіх скарбаў. Вельмі складанае пытанне, але, тым не менш, трэба займацца і гэтым. Ці на падставе нумізматычных калекцый Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ці на падставе іншых нумізматычных калекцый. Да вайны ў Беларускім дзяржаўным музеі існавала выдатнейшая калекцыя арабскіх дзрхемаў, якая налічвала 40 тысяч адзінак. Яны былі ў час вайны вывезены.

У свой час я прапанаваў ідэю стварэння банка нацыянальных даддзеных усяго таго, што было страчана. Наша дзяржава павінна знайсці хоць адзін камп"ютар, каб выкарыстаць яго з гэтай мэтай. Кожная звестка, кожны факт, кожны нумар часопіса, у якім ідзе гаворка пра той жа крыж Ефрасінні Полацкай, не могуць уваходзіць толькі ў памяць чалавека. Я гатоў перадаць адзін з камп"ютэраў Міністэрства замежных спраў, каб займацца гэтай работай.

Па выніках сённяшняга абмеркавання давайце падрыхтуем адпаведную паперу ад нашага ўрада, паставім адпаведныя пытанні пра фінансаванне гэтай справы. Са свайго боку я абяцаю, што наша міністэрства будзе дапамагаць, колькі ёсць у нас сіл.

Закончыць сваё выступленне я хацеў бы, на мой погляд, цікавай інфармацыяй. У мастацкім музеі Філадэльфіі мне ўдалося знайсці даспехі Радзівіла Чорнага і яшчэ аднаго з прадстаўнікоў гэтага княжацкага роду. Ёсць фотакартка, якая была зроблена Генадзем Бураўкіным у той момант, калі гэта было знойдзена. Аказалася, што інвентарныя кнігі з Нясвіжа хутчэй за ўсё былі вывезены ў Германію і ў нас пакуль што няма дакументаў, якія пацвердзілі б вяртанне гэтых рэчаў на радзіму.

Выпадкова, перагортваючы альбом аднаго са скульптараў, я даведаўся, што шлем з гэтых даспехаў знаходзіцца ў Кракаве. Ён датаваны сярэдзінай ХУІ стагоддзя. Вось так бывае ў жыцці. Такі лёс многіх вельмі цікавых рэчаў: даспехі ў Філадэльфіі, а шлем знаходзіцца ў Кракаве.

Што тычыцца фінскага мастака Ахала Вала, пра якога тут гаварылі, то я магу сказаць, што на яго я выйшаў дзякуючы Адаму Восіпавічу. Ён даведаўся, што я еду ў Фінляндыю і даў адпаведную інфармацыю. Я сустрэўся з мастаком. Гэта вельмі цікавы чалавек. У яго маецца некалькі тысяч карцін. Мы вялі перамовы з дырэктарам нашага мастацкага музея Карачуном. Ёсць у нас падыходы і планы, каб творчая спадчына Ахала Вала вярнулася на Бацькаўшчыну. Думаю, што ў бліжэйшыя гады маглі б арганізаваць персанальную выстаўку гэтага мастака, які працаваў тут у 20-я гады, ведаў Шагала, Пэна, Купалу, Коласа, Чарота, усю беларускую інтэлегенцыю. Ён і сёння, у свае 92 гады захоўвае ясны розум і пашану, любоў да Бацькаўшчыны. Гэты чалавек, які выехаў у пачатку 30-х гадоў, добра размаўляе на беларускай мове. Калі ён даведаўся, што прыязджае прадстаўнік Беларусі, то на вачах у яго былі слёзы. Я думаю, што ў свеце ёсць шмат такіх выпадкаў, пра якія мы павінны больш гучна, чутна і актыўна гаварыць, пра нашу Бацькаўшчыну. І ў Італіі, і ў Францыі, і ў Польшчы ёсць людзі, якія будуць дапамагаць вяртанню беларускіх нацыянальных каштоўнасцей у Беларусь.

ВЫСТУПЛЕННЕ Н.С.ГІЛЕВІЧА,
старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, народнага паэта Беларусі

Дарагія таварышы! Мы сабраліся на пленум і, натуральна, гаворым пра нашы балючыя праблемы. Відавочна, камісія "Вяртанне" будзе больш канкрэтна разглядаць праграму сваёй дзейнасці. Нас, беларусаў, рабавалі, цягнулі нашы скарбы ва ўсе бакі стагоддзямі. Дык і вяртаць свае каштоўнасці мы будзем, відаць, доўга. Гэта работа разлічана на многія дзесяцігоддзі. І галоўнае, з чым я пагаджаюся адразу ж, -- гэта трэба рабіць на дзяржаўным грунце. Гэта павінна быць дзяржаўнай палітыкай. Вя-

дома, грамадская дзейнасць у гэтым кірунку вельмі пахвальная, яна многае зрабіла, робіць і будзе рабіць сваё. Аднак мы ў такім становішчы, што трэба, каб гэта праца ўсё больш станавілася дзяржаўнай.

Чаму цяжка весці ў нас гэтую работу?Я думаю таму, перш за ўсё, што наша вялікая нацыянальная бяда, на жаль, працягваецца. Я маю на ўвазе ўзровень нацыянальнай самасвядомасці ў рэспубліцы. Патрэбна іншая, калі не гаварыць высокая, то ўсё ж дастатковая нацыянальная самасвядомасць. У першую чаргу, наш беларускі ўрад, як ні парадаксальна гэта гучыць, павінен стаць беларускім. Я спадзяюся, вы разумееце, што гэта азначае. І справа не толькі ў мове, хаця, канешне, у першую чаргу ў мове, бо іменна мова, перш за ўсё, — паказчык беларускасці і нашага грамадства, і нашага ўрада. Але справа і ў нацыянальным самапачуванні. Пакуль што такога нацыянальна-беларускага самапачування назіраецца мала. Прычына ў агульных адносінах да культуры, асабліва — у адносінах да беларускай нацыянальнай культуры. Скрозь і ўсюды мы бачым непаважлівыя, нігілістычныя адносіны. Найноўшы факт: на нядаўняй сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у апошні дзень работы ўзнікла пытанне аб тым, каб зняць падаткі на нерухомасць, на зямлю і некаторыя іншыя з творчых саюзаў і Беларускага фонду культуры. Зняць толькі на адзін бягучы, 1992 год. І сума ўсяго толькі 1,5 мільёна рублёў. Як я горача ні даказваў з трыбуны, што гэта трэба зрабіць у нашай дзяржаве, — пераканаць шаноўную аўдыторыю Вярхоўнага Савета мне не ўдалося. Пастанова не была прынята... Яшчэ больш я быў здзіўлены вечарам, калі гэта ганебная падзея, што адбылася ў Вярхоўным Савеце, у вялікім, гадзіны на дзве, тэлерэпартажы не знайшла адлюстравання.Не паказалі нават нямога кадра. І наогул не ўспомнілі, што разглядалася пытанне аб дапамозе культуры. Больш паўгадзіны паказвалі спрэчкі: быць ці не быць дэпутату імярэк членам Камісіі па заканадаўству? Больш паўгадзіны! А нават адной секунды, не кажучы пра мінуту, на праблемы культуры на нашым тэлебачанні не знайшлося.

Тут ужо гаварылася пра рашэнне Мінскага гарвыканкама наконт Верхняга Горада — яго перадачы ў распараджэнне камерсантам. Па-мойму, перад намі сведчанне страшнага і сумнага ...іна. Гэта тое, пра што можна гаварыць як пра вельмі не-

бяспечны заняпад духоўнасці, калі ўсё перадаецца актыўным, ці як іх назваў Васіль Шукшын, "энергічным людзям". Іх цяпер з"яўляецца вельмі многа.

Дарагія мае! Аб чым я хацеў бы вас прасіць. Пры ўсім пры тым, што становішча цяжкае, нам трэба мабілізаваць грамадскую думку на Беларусі, а таксама сярод беларускай дыяспары за межамі Бацькаўшчыны на карысць той працы, якой займаецца камісія "Вяртанне" Беларускага фонду культуры і ўсе патрыёты Бацькаўшчыны. Трэба мабілізаваць грамадскую думку на пошукі нашых духоўных каштоўнасцяў і на прапаганду самой ідэі іх вяртання ў Беларусь. Трэба, каб і друк, і радыё, і тэлебачанне, пра якое мы ўспаміналі тут не лепшым чынам, сур"ёзна заняліся гэтай справай. Пакуль што ў гэтым сэнсе робіцца бязбожна мала. Канешне ж, нам не ўсё ўдасца вярнуць, зрабіць прыватнасцю Беларусі ўсё тое, што сёння з"яўляецца прыватнасцю іншых дзяржаў, іншых народаў. Але мне вельмі падабаецца думка, што ў такім разе хай там, дзе знаходзяцца нашы мастацкія каштоўнасці, яны працуюць на Беларусь, на нашу культуру, на нашу вядомасць і славу. Трэба, па магчымасці, адраджаць і за мяжой нашы беларускія асяродкі — накшталт Беларускага музея ў Вільні, пра што справядліва гаварыў Адам Мальдзіс. І, вядома, трэба ведаць, дзе што наша ёсць у свеце, пра што слушна казала Т.Рошчына. Таму што ў сэнсе інфармаванасці мы, выбачайце, жывём яшчэ як не вельмі цывілізаваныя людзі.

Асобна я хацеў бы спыніцца на нашых узаемаадносінах у гэтай сферы з Польшчай. Мне думаецца, тут трэба нам падыходзіць вельмі і вельмі ўважліва. Надзвычай уважліва! Гэта пытанне неймаверна складанае і цяжкае. Я думаю, вы заўважаеце аб"ёмнасць, шырыню, важнасць гэтай праблемы па тым, як зараз яна асвятляецца ў друку, па выступленнях многіх нашых публіцыстаў, навукоўцаў. Трэба думаць, што і фонд культуры, і камісія "Вяртанне", і іншыя нашы навуковыя і мастацкія асяродкі будуць да яго вяртацца не раз. Тут нам вельмі не стае гістарычных даследаванняў аб нашым мінулым. Відаць, нам трэба пачынаць у першую чаргу з гэтых навуковых даследаванняў. Трэба высветліць і сказаць усяму свету, што і дзе ёсць наша, беларускае. Каб стала ўсім зразумела: вось гэта належыць Беларусі. Я думаю, нас не павінна бянтэжыць тое, што, скажам, на нашай зямлі ў стагоддзях, асабліва ў нашых гарадах, панавала небеларуская культу-

ра, небеларуская мова.

Што датычыць нашых суседзяў на Захадзе, якія пачалі выдаваць серыю кніг пра гарады, у тым ліку — пра гарады гэтак званых "крэсаў усходніх". Гэта нашы беларускія гарады, а пра іх там гаворыцца як пра гарады польскія, як пра асяродкі польскай культуры. Я ўжо бачыў і трымаў у руках такую кнігу пра наш Нясвіж. Мяркуецца выдаць яшчэ некалькі такіх кніг — пра Гародню, Навагрудак, Ліду. Пра нашы ўзаемаадносіны з Польшчай гаварыў тут і шаноўны Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь і іншыя таварышы. Яшчэ раз падкрэсліваю: я зусім не збіраюся спрашчаць гэта пытанне, але, тым не менш, пытаю: будзем мы гаварыць пра гэту справу з нашымі заходнімі суседзямі ці будзем сарамліва маўчаць? Маўляў, няёмка, трэба ж быць культурнымі, інтэлігентнымі, талерантнымі і гэтак далей. Я думаю, што небеспадстаўна тут гаварылася пра звышактыўнасць нашых заходніх суседзяў у дачыненні да культурнай спадчыны, да тых помнікаў культуры, якія ёсць на тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым падкрэслівалася, што нашы суседзі праяўляюць сваю звышактыўнасць літаральна на кожнай "дробязі". Мне хацелася б іменна гэта падкрэсліць. Вы разумееце: вось яны — усякую "дробязь" ведаюць, а мы? Давайце пачнём з гэтага, каб мы і ўся наша грамадскасць таксама ведалі кожную "дробязь": і яе вытокі, і што яна сабой уяўляе, і каму яна па справядлівасці павінна належыць. Таму што пры нашым нігілістычным стаўленні да сваёй гісторыі, культуры, мовы мы надта лёгка ўступаем суседзям сваё, наша. І праз усё жыццё ўступалі. Дастаткова, напрыклад, убачыць, што выданне на польскай мове — значыць, належыць Польшчы, а калі на рускай мове — Расіі. Гэта зусім непісьменны падыход. У такім разе трэба гаварыць: "Выбачайце, у нас і цяпер амаль усе дзяржаўныя дакументы і паперы друкуюцца і паступаюць у архіў на рускай мове. Ну і што? Гэтыя дакументы належаць Расіі?" Вось які павінен быць падыход да матэрыялаў і публікацый. Пра нашы беларускія гарады, нашы старажытныя беларускія роды навукоўцы і публіцысты Польшчы напісалі і нагаварылі ў тысячы разоў больш, чым мы, беларусы. Напісалі і нагаварылі як пра сваё, польскае. І ўвесь свет у выніку ведае, што вось гэта і гэта належыць Польшчы, бо гэта ўжо замацавана ў сотнях і тысячах друкаваных матэрыялаў, дакументаў. Вось якая вялікая работа нас чакае! Я думаю, што кожны з вас, як і ваш пакорны

слуга, пераканаўся шмат разоў, як яшчэ мала нас ведаюць у свеце. Некалькі тыдняў таму я быў у Францыі, у Парыжы і ў Страсбургу. Давялося правесці гадзіну-другую з віднымі дзяржаўнымі дзеячамі многіх еўрапейскіх краін. Была магчымасць пагаварыць не з трыбуны, а ў вузкім коле. Ад крыўды хацелася горка заплакаць. Да чаго ж ніхто не ўяўляе нашу гісторыю ў самых вялікіх, значных фактах! Не кажучы пра тыя "дробязі", за якія з веданнем і таму настойліва змагаюцца нашы суседзі на Захадзе — палякі. Ды і літоўцы.

Я заканчваю. Што хачу сказаць у заключэнне? Тут выказалі шмат надзей на Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, на яго Камісію па адукацыі і культуры. Але наша Камісія мае ў сваім складзе на штатных пасадах усяго трох дэпутатаў. Многія ж думаюць іменна так: ёсць Камісія ў Вярхоўным Савеце — значыць няхай яна і працуе. Але ж гэта толькі тры чалавекі з ліку дэпутатаў ды тры чалавекі ад сакратарыяту. Тым не менш, канешне ж, колькі нас хапае і будзе хапаць — мы будзем падтрымліваць усё, што датычыць вырашэння пытанняў на карысць беларускай культуры. Але працаваць трэба нам усім, усім.

На заканчэнне я хачу вам сказаць наступнае. Добра, што ёсць вы і падобныя на вас людзі, якія не толькі разумеюць гэты наш агульны вялікі клопат, але, насуперак усім цяжкасцям, перашкодам, крыўдам, знаходзяць сілы і час, каб паслужыць адраджэнню нашай Бацькаўшчыны. Я жадаю вам поспехаў. Жадаю натхнення. І выказваю ўпэўненасць, што такіх, як вы, будзе ўсё больш і больш у Беларусі.

Дзякую за ўвагу.

## З ВЫСТУПЛЕННЯЎ НА ПЛЕНУМЕ

А.М.Міхальчанка, член праўлення БФК, начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

У сакавіку 1992 года паміж дзяржавамі, былымі рэспублікамі СССР, якія ўваходзяць у Садружнасць Незалежных Дзяржаў, выпрацаваны механізмы абмену інфармацыяй.Ён улічвае і фінансавы бок. Пагадзіліся на тым, каб рабіць копіі з улікам сабекошту, а не з улікам дагаворных цэн, якія зараз існуюць. Зроблена ня-

мала для таго, каб высветліць лёс галіновых архіваў, якія захоўваюць тую інфармацыю, якая патрэбна не толькі Расіі, але і іншым былым рэспублікам. Напрыклад, на тэрыторыі Беларусі ёсць картаграфічная ўстанова, якая рабіла карты для Прыбалтыкі, часткі Расіі і ўсёй Беларусі. Зараз паўстала пытанне, як забраць гэтыя карты ад нас. Але мы паставілі пытанне, як нам забраць тыя карты, што зроблены з космасу, якія тычацца нашай рэспублікі. Пачалі шукаць кампраміс, каб быў вынік. І так па кожнаму пункту, які разглядаўся.

Украіна займае вельмі наступальную пазіцыю ў дачыненні тых дакументаў, што захоўваюцца ў нас. Іх вельмі цікавяць фонды Радзівілаў, а Літоўскую метрыку яны называюць Валынскай метрыкай. Пра Літоўскую метрыку. 300 кілаграмаў плёнкі, на якой адзнята ўся Літоўская метрыка, ужо знаходзяцца ў будынку былога Гістарычнага архіва на вул. Казлова у Мінску.

У Злучаных Штатах Амерыкі я знаёміўся з тым, што знаходзіцца ў Нацыянальным архіве ЗША па Беларусі. У час вайны з Беларусі вывезена шмат дакументаў, якія адзняты на І72 фотаплёнкі. Зараз амаль усе яны знаходзяцца ў нашым Нацыянальным архіве, што створаны ўрадам 22 красавіка г.г. на базе былога партыйнага і гістарычнага архіваў. Мы падпісалі пратакол аб намерах з кіраўніцтвам Нацыянальнага архіва ЗША. ЗША актыўна гандлююць той інфармацыяй, што ў свой час трапіла ў Германію.

Памятаючы, што я таксама член камісіі "Вяртанне", я зрабіў у час камандзіроўкі рукапіс "Пісьмовыя крыніцы аб Беларусі ў бібліятэцы Кангрэса ЗША". Вось гэты рукапіс і перадаю старшыні камісіі. Гэта камп"ютэрныя дадзеныя — І438 крыніц. Тут ёсць розная літаратура. Я гутарыў з чалавекам, які адказвае ў бібліятэцы Кангрэса ЗША за Беларускі аддзел. Ён вельмі добра ставіцца да беларусаў, але не ведае беларускай мовы. Ён прасіў дапамогі.

Аб прафесійнай высновe нашых пошукаў. У нашай сістэме дзяржаўнай архіўнай службы мы стварылі спецыяльны аддзел у Беларускім навукова-даследчым цэнтры. Супрацоўнікі яго будуць атрымліваць грошы за тое, што будуць шукаць нашы

скарбы, нацыянальныя багацці за мяжой. Распачатая справа па вяртанню вельмі актуальная і патрэбна ўсім нам, таму неабходна пашыраць нашы агульныя намаганні.

У бліжэйшы час мы павінны падпісаць міжархіўнае пагадненне з Польшчай, у тым ліку і пра вяртанне культурных каштоўнасцяў. Мы прапрацавалі ўсе дакументы, што раней былі заключаны з польскім бокам, і прыйшлі да высновы, што суседзі займаюць звышактыўную пазіцыю ў гэтым накірунку. І нам працаваць трэба прафесійна і абгрунтавана. Без доказаў нічога не ўспрымаецца. Нам трэба псіхалагічна пасмялець.

Мы падрыхтуем адпаведны ліст у Міністэрства замежных спраў РБ аб вяртанні архіваў з усіх краін, гарадоў, дзе беларускія дакументы аказаліся па волі лёсу. Іх там шмат. Больш таго, паўстае пытанне, як ставіцца да дакументаў такіх структур, як Камітэт дзяржаўнай бяспекі і іншых. Каб разабрацца ва ўсіх справах, мы павінны і на гэтыя дакументы прад"яўляць свае правы. Тым больш, што ў гэтых дакументах ідзе гаворка пра нашых людзей, якіх лёс выкінуў за межы Беларусі.

Думаю, калі будзем працаваць, то будзе і добры вынік.

Ю.А.Лабынцаў, доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства і балканістыкі РАН

Сейчас во всем мире есть как бы второй, параллельный план дипломатии, особого рода дипломатии -- это создание культурных центров в различных странах. Наряду с полномочными представительствами, консульствами или посольствами такие культурные центры выполняют очень важную роль. Она значительно возрастает в условиях становления нового молодого государства, каким является Белоруссия, которая занята очень многими проблемами,в том числе проблемой возвращения культурного наследия. Но есть еще одна очень важная сторона. Это отношение к национальной культуре в мире, ее знание, восприятие культуры того или иного народа другими народами. Культурный процесс -- явление чрезвычайно сложное. Конечно, физическое возвращение ценностей сама по себе --

вещь абсолютно необходимая, но в рамках структуры культурного процесса, где все занимает свое определенное место. И гораздо большее значение имеет узнавание народа народом, культуры другого народа, отношение к этой культуре. И естественное следствие — это ощущение света культуры того или иного народа на мировой арене, в мировом культурном процессе в целом. Поэтому у меня вот какое предложение: подумать над идеей налаживания культурных контактов путем создания культурных центров многофункционального характера. Совершенно очевидно, что в ближайшее время такой культурный центр должен открыться в Москве, и для этого есть условия, конечно же, в Петербурге. Я думаю, что успешнее всего это дело может пойти в Вильне. Если белорусский музей возродится — то вот вам готовый культурный центр со своей историей, со своими традициями.

Я хочу передать министру П.К.Кравченко программу польского культурного центра в Москве. Выходит такая программа ежемесячно. Это как пример конкретного дела Ваших польских коллег, работающих в России. Меньшие польские культурные центры существуют еще в нескольких городах России, но особо активно работает польское посольство в Москве, при котором и существует крупнейший культурный центр. Надо сказать, что мероприятия центра пользуются успехом. Рассчитаны они как на россиян, точнее, русских, так и на "россиян" белорусского происхождения, белорусов Москвы, а также представителей других народов, в том числе и польского. Здесь есть своя библиотека, свой кинозал. Все это находится в помещении посольства.

По работе, которую мы ведем совместно с Белорусским фондом культуры и Национальной библиотекой Беларуси. Это международная славяноведческая программа по изучению духовной культуры Подляшья и выпуск соответствующих печатных изданий. Надо сказать, что руководство Национальной библиотеки сразу же отнеслось к этой идее с большим пониманием и вот уже в течение двух лет мы весьма и весьма успешно сотрудничаем. Я должен сказать, что руководство библиотеки нашло возможным, в частности, выделить и компьютерную технику для этой

работы. Один из ее итогов -- семь томов информационно-библиографической энциклопедии духовной культуры Подляшья. Мне не нужно много говорить, чем являлось и является Подляшье для Беларуси. Это своего рода то, чем была для Украины Галичина. Истоки возрождения белорусской культуры в XIX столетии связаны как раз с этими территориями. Имеется в виду, прежде всего, нынешняя Белостотчина. Программа эта сулит очень многие интересные книги. Уже готовится к печати и через год-два выйдет первый том основной нашей серии. Это будет том, посвященный литературе, связанной с историей культуры Подляшья. Реализуемая нами программа не имеет аналогов в мире. Начиналась она силами энтузиастов и продолжается ими. Нас деятельно поддерживает Белорусский фонд культуры. Большое ему спасибо.

Еще раз хочу подчеркнуть, что до последнего времени о Белостотчине на Беларуси говорили мало. По разным причинам этот регион старались"упускать". Только сейчас, буквально последние два-три года, появились первые исторические монографии этого края, но все, к сожалению, в отрыве от огромной массы источников, остающихся неизвестными. Наша программа призвана быть и таким объединяющим началом, которое поможет создать не только своеобразную энциклопедию и конкретные теоретические исследования, но и целую историко-культурную систему, а также систему исследовательскую.

В заключение хочу сказать следующее -- в Московском университете, где я читаю лекции, появляется надежда создать с будущего года специальный курс по истории Беларуси, рассчитанный на студентов и аспирантов. О подобном курсе до сих пор приходилось только мечтать. Сейчас это становится реальностью.

Ю.А.Карачун, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь

Я мог бы дапоўніць шматлікімі прыкладамі тое, што было ў дакладзе Адама Восіпавіча. Пакажу вось гэту папачку. Гэта ўсё, што засталося ад даваеннай калекцыі Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі, былой Карціннай галерэі, што запісана

па ўспамінах Алены Васільеўны Аладавай. У мяне аб гэтым матэрыяле падрыхтаваны артыкул да друку і я перадаю яго нашаму старшыні. Я даю інфармацыю аб усім, што было ў нашай Карціннай галерэі. Але я хацеў бы павярнуць нашу размову да больш сучасных момантаў. Будзем гаварыць аб тым, што ляжыць сёння на паверхні. Мы раздабылі дакументы, звязаныя з вывазам партрэтаў, якія належалі Радзівілам, у Польшчу ў 50-м годзе. У спісе 89 твораў. Вывезены "во исполнение распоряжения Совета Министров СССР от 10.05.1950 г. № 1962-739-С". Літара "С" гаворыць пра тое, што гэтае распараджэнне было сакрэтным. На падставе гэтага пісьма была пастанова Савета Міністраў БССР ад 5 чэрвеня 1950 года. Сёння мы павінны адшукаць шляхі, каб займацца вяртаннем гэтых каштоўнасцяў.

Вы памятаеце, што некалькі гадоў таму была вялікая кампанія па стварэнню ў Маскве Музея дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва СССР. У нашых колах ён называўся Глазуноўскім музеем. Пад моцным націскам мы павінны былі адправіць вялікую калекцыю твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія былі сабраны заводамі і прадпрыемствамі рэспублікі. Уся гэта калекцыя была вывезена ў 1986 годзе ў Маскву. Я спадзяюся, што там яна цяпер нікому не патрэбна. Мы маем адпаведныя акты, дакументы аб гэтай калекцыі. Калі мы гаворым пра ўласную нядбайнасць, то сутыкаемся з жаданнем выканаць любы загад, з аднаго боку, і з кепскімі адносінамі да сваёй спадчыны, з другога боку. Я званіў у Літву. Мой калега Будрыс сказаў, што яны проста не выканалі тую пастанову. Мы змаглі з гэтай калекцыі забраць толькі нейкія фрагменты. Чаму я непакоюся аб гэтай калекцыі? Яшчэ гадоў 15-20 таму нашы мастацкія саветы складаліся, у асноўным, з мастакоў, жывапісцаў, графікаў. Большасць з іх працавала на наменклатуру. Набыць у тыя гады што-небудзь з дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва практычна магчымасці не было. А тут забралі прадукцыю і шклозавода, і фарфора-фаянсавага завода, і іншых вытворчасцей.

Т.І.Рошчына, член камісіі "Вяртанне", загадчык
аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Адной з найважнейшых задач, якая стаіць перад беларускай культурай, з"яўляецца ўдасканаленне работы па збіранню, уліку і выкарыстанню дакументальных помнікаў Беларусі, дзе б яны не знаходзіліся.

Самая цяжкая праблема -- вяртанне кніжнага багацця з-за межаў Беларусі. Праблема гэтая ў першую чаргу павінна вырашацца на дзяржаўным узроўні. Але многае маглі б зрабіць і грамадскія няўрадавыя арганізацыі.

Адзін са шляхоў вяртання -- гэта абмен. Магчыма, нейкую частку кніг і рукапісаў можна вярнуць у абмен на частку так званых "трафейных фондаў", якія былі атрыманы пасля вайны ў якасці рэпарацый за панесеныя страты, для ўзаемнай карысці бакоў. Тыя ж выданні, якія немагчыма будзе здабыць у арыгіналах, будуць замяняцца (і гэта ўжо робіцца) копіямі на мікраносьбітах. Такі шлях дасць магчымасць забяспечыць Нацыянальнай бібліятэцы паўнату рэпертуара друкаванай кнігі як культурнай спадчыны.

Але вяртанне дакументальных помнікаў -- гэта не толькі вяртанне ў прамым сэнсе, бо многія кнігі і рукапісы вярнуць немагчыма. Гэта, у першую чаргу, увядзенне іх у навуковы ўжытак, публікацыі тэксту, інфармаванне даследчыкаў. Так, мы многае страцілі. Але горш за ўсё, што мы не заўсёды ведаем, што і дзе захавалася. У сховішчах Беларусі -- бібліятэках, музеях, архівах -- захоўваюцца вялікія, большай часткай яшчэ не засвоеныя і нікому невядомыя багацці. Гэтыя фонды трэба зрабіць даступнымі, высвятліць іх навуковы патэнцыял, увесці ў навуковы ўжытак. Гэта ж датычыцца і беларускіх рарытэтаў за межамі рэспублікі. Аптымальны варыянт і наша канчатковая мэта -- стварэнне рэспубліканскага банка звестак кніжных помнікаў Беларусі (незалежна ад месца іх захоўвання), адзінай сістэмы кам"ютэрнага абслугоўвання. Работа па яго стварэнню ўжо пачата Нацыянальнай бібліятэкай, але для яе завяршэння патрэбны вялікі час і сродкі. На сённяшні ж дзень найбольш эфектыў-

нае выкарыстанне кніжных помнікаў магчыма толькі ў тым выпадку, калі іх фонды раскрыты, адлюстраваны ў каталогах і апісаннях. Гэтым шляхам ужо сёння можна стварыць бібліяграфічную базу для правядзення далейшых даследаванняў у галіне гісторыі беларускай навукі і культуры. Галоўны напрамак — далейшая работа над нацыянальным рэпертуарам "Кніга Беларусі" — зводным каталогам выданняў ХУІ-ХУШ стагоддзяў на замежных мовах. Распрацоўваецца бібліяграфічная праграма "Старадрукі беларускіх сховішчаў". Гэта серыя выданняў будзе ўключаць у сябе неабмежаваную колькасць бібліяграфічных даведнікаў - зводных каталогаў, каталогаў ці апісанняў асобных калекцый старадрукаў у бібліятэках, музеях, архівах Беларусі. Адзін з магчымых напрамкаў работы па бібліяграфічнаму ўліку помнікаў кніжнай культуры — рэканструкцыя страчаных, альбо апісанне захаваўшыхся гістарычных кніжных калекцый, якія існавалі на Беларусі — напрыклад, Радзівілаў, Сапегаў, Храптовічаў і іншых. У дадзеным выпадку друкаваныя каталогі калекцый — найбольш верагодны шлях вяртання іх на Бацькаўшчыну, асабліва калі іх фізічнае вяртанне (нават захаваных частак) пад вялікім пытаннем. Праграма бібліяграфічнай рэканструкцыі магла б уключыць у сябе шэраг тамоў: рэпрынтныя выданні захаваных вопісаў, ілюстраваны каталог захаванай часткі кнігазбору, манаграфію па гісторыі бібліятэкі. Гэта, у першую чаргу, магло б датычыцца бібліятэкі Храптовічаў, для вяртання якой Беларускі фонд культуры прыкладае немалыя намаганні.

Вядзецца работа (разаслана анкета, паступае першая інфармацыя) па складанню рэспубліканскага даведніка "Фонды кніжных помнікаў у бібліятэках, музеях, архівах Беларусі".

У.А.Гілеп, першы намеснік міністра культуры
Рэспублікі Беларусь

У мяне ёсць дзве канкрэтныя прапановы, на якіх я спынюся.

Думаю, што вы ўсе падтрымаеце пастанову, якая ўсім

раздадзена. Але я хацеў бы дадаць, што трэба прыняць зварот да нашага ураду аб стварэнні спецыяльнай урадавай структуры пошукаў і вяртання нацыянальных каштоўнасцей. Тут слушна казаў і Адам Восіпавіч Мальдзіс і Пётр Кузьміч Краўчанка, што трэба стварыць такую структуру. Міністэрства культуры далучаецца да гэтых прапаноў і спадзяецца на станоўчае вырашэнне пытання. Мне здаецца, што ураду нашаму не трэба гаварыць пра адзінкі, грошы. Усё пры жаданні можна знайсці. У нас ёсць магчымасць. Трэба паглядзець на нашы урадавыя структуры: на колькасць аддзелаў у Савеце Міністраў, камітэтаў пры Савеце Міністраў. Гэтыя камітэты і аддзелы трэба аб"яднаць і стварыць вельмі патрэбную структуру і ў палітычным і ў культурным сэнсе.

Некаторыя дзяржавы СНД набываюць сваю палітычную вагу, накладаючы лапу на адзін ці два флоты, не аддаючы ядзерную зброю. Мы з вамі гэтага не можам зрабіць, але мы можам дабіцца павагі і ўвагі да нас, да нашай рэспублікі тым, што можам заявіць аб абароне і зберажэнні сваёй культуры, сваёй спадчыны, што мы маем намер вярнуць усё сваё сабе. Вярнуць сваю гісторыю, сваю спадчыну. Гэта вельмі патрэбна сёння нам. Гэта яшчэ раз гаворыць на карысць стварэння дзяржаўнай структуры па пошуку і вяртанню каштоўнасцяў. Гэта першае.

Па-другое, гэта тое, пра што гаварыў Адам Восіпавіч Мальдзіс. Я хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць і сказаць, што пэўных поспехаў у пошуку і вяртанні каштоўнасцяў мы можам дабіцца толькі тады, калі нас будуць разумець усе бакі. У першую чаргу, усе былыя рэспублікі былога Савецкага Саюза. Што ж адбываецца сёння? У кантэксце ўжо таго, што было сказана. Афіцыйныя ўстановы і асобныя дзеячы Расіі сёння вельмі эмацыянальна крытыкуюць падпісанае ў Мінску І4 лютага бягучага года пагадненне па вяртанню культурных і гістарычных каштоўнасцяў. Гэта крытыка ідзе без адзінай спасылкі на якія-небудзь дакументы або якія-небудзь юрыдычныя нормы. Гэта крытыка эмацыянальная і тэндэнцыйная, але яна гучыць паўсюль. Падключылася так званае Цэнтральнае тэлебачанне, прэса, у тым ліку газета "Культура" і іншыя. Усё часцей чуваць гэты голас на ўсю прастору былога Савецкага Саюза. Што нам рабіць? Я лічу, што гэта трэба запісаць у

нашай пастанове, што іменна сёння адной з актуальнейшых задач нашай грамадскасці, нас, як прадстаўнікоў грамадскасці, нас, як Міністэрства культуры, з'яўляецца тлумачэнне народу, што ёсць што. Не ўсе ведаюць, як усё адбываецца на самой справе. Ведаюць тыя, што сядзяць тут, яшчэ некалькі свядомых людзей. Мы павінны часцей і часцей гаварыць пра гэта ў нашай прэсе, праз наша радыё і тэлебачанне.

І апошняе. Міністэрства культуры шмат што робіць у гэтым плане. Мы займаемся праблемай вяртання бібліятэкі Храптовічаў. Я асабіста ездзіў у Кіеў. Там таксама ёсць жаданне дапамагчы нам у вяртанні гэтай бібліятэкі. Але пасля прыезду адтуль я асабіста падрыхтаваў ліст ад імя нашага ўрада ўраду Украіны. Сціплы, палітычна вытрыманы, але з просьбаю вярнуць. Што вы думаеце? Па сённяшні дзень гэты ліст ляжыць у канцылярыі Саўміна. Спачатку ляжаў у Ніны Мікалаеўны Мазай, цяпер — недзе ў Міхаіла Дзямчука. Руху ніякага.

А.Д.Побаль, член камісіі "Вяртанне", доктар мастацтвазнаўства

Надта складаная праца, пра якую мы вядзем размову. Я, як археолаг, параіў бы выехаць у Польшчу і вывучыць, што ёсць наша ў Польшчы толькі ў адным накірунку: "Старажытнасць нашай Беларусі ў Польшчы". Справа ідзе пра рэчавыя матэрыялы, якія трапілі туды 200-300 гадоў таму. Я працаваў у пяці камандзіроўках у Польшчы. Вось, скажам, Кракаўскі археалагічны музей. Там ёсць калекцыі ўсіх краін і народаў. Мне сказалі: "Шукайце сваю беларускую калекцыю". Тут як склалі ў XIX стагоддзі калекцыю Глогера, так яна і ляжыць. Мне давялося перабраць усю гэтую калекцыю, каб знайсці нешта наша, беларускае. Усё, што я знайшоў, надрукаваў вось у гэтай кнізе "Беларускія старажытнасці ў музеях Польшчы". Ці згодзяцца нам вярнуць калекцыю польскія археолагі? Згодзяцца, але куды мы яе забяром? Яна павінна знаходзіцца ў пэўных умовах. Нам патрэбны адпаведны будынак, адпаведныя стэнды.

Я зрабіў у час гэтых камандзіровак многае, але там

яшчэ працы на дзесятак гадоў. Я б мог узяць на сябе (я ўжо пенсіянер, і некаторыя лічаць, што не магу працаваць, але гэта не так) камандзіроўку ў Германію на адзін год і, спадзяюся, што прывёз бы адтуль кнігу "Старажытнасці Беларусі ў музеях Германіі". Я ведаю нямецкую, англійскую, лацінскую, усе славянскія мовы, неаднаразова быў у Германіі, добра ў ёй арыентуюся і мог бы працаваць з усімі літаратурнымі крыніцамі на тэрыторыі Германіі.

Па ўсіх напрамках нашых інтарэсаў трэба накіроўваць людзей, што ўмеюць працаваць.

І.П.Загрышаў, дырэктар Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі

Наіўна думаць, што мы распрацуем праграму, план — і заўтра каштоўнасці пацякуць у нашу скарбонку. Трэба быць знаёмым са спецыфікай сховішчаў нацыянальных каштоўнасцяў. Гэта ўстановы закрытага накірунку. Дапусціць ці не дапусціць нашых даследчыкаў да матэрыялаў вырашаюць уладальнікі фондаў. Таму пытанне вельмі цяжкае. Асабліва сёння, калі няма ніякага арбітражнага органа на прасторы былога Савецкага Саюза. Больш таго, трэба ведаць псіхалогію працаўнікоў, якія займаюцца нацыянальнымі каштоўнасцямі. Калі ў мінулым годзе мы былі на нарадзе ў Міністэрстве культуры СССР, то былы міністр паставіў пытанне так: выдаць каталог каштоўнасцяў, якія належаць іншым народам. І адразу адчулася процідзеянне работнікаў культуры Масквы. Яны катэгарычна выступілі супраць такой акцыі, каб не даваць нават неабходнай інфармацыі.

Гэта сур"ёзная дзяржаўная задача. Усё павінна вырашацца на дзяржаўным узроўні. Таму стварэнне пэўнай прафесійнай структуры, можа, на базе Скарынаўскага цэнтра, нам вельмі неабходна. Першай задачай такога цэнтра з"яўляецца стварэнне банка інфармацыі культурных каштоўнасцяў. Тое, што ёсць, выяўлена за межамі рэспублікі, тое, што мы ведаем па крыніцах, але не выяўлена. Гэтую інфармацыю трэба закласці ў камп"ютэрную праграму, над якой працуе зараз Міністэрства культуры, каб пазней гэты банк можна было вы-

карыстоўваць любому даследчыку.

У кожным выпадку пытанне аб вяртанні трэба ставіць вельмі канкрэтна па поўнай калекцыі ці экспанату. У адным выпадку трэба рабіць міждзяржаўнае пагадненне паміж дырэкцыямі архіваў, у другім — паміж міністэрствамі культуры, у трэцім — паміж міністэрствамі замежных спраў і гэтак далей.

Што тычыцца бібліятэкі Храптовічаў, то прававая база ў нас ёсць. Мы ведаем пра яе гадоў дзесяць, здаецца. А бібліятэка ўсё знаходзіцца на Украіне. Вось тут успаміналі пра слуцкія паясы. Мы маем сувязі з Плоцка-Мазавецкім музеем, дзе знаходзіцца каля 300 слуцкіх паясоў.

Ёсць пастанова Савета Міністраў РБ аб рэарганізацыі былога Дзяржаўнага музея Рэспублікі Беларусь у Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Без дапамогі ў вяртанні культурных каштоўнасцяў стварыць нацыянальную экспазіцыю будзе вельмі і вельмі цяжка на фондах аднаго толькі былога музея. Калі мы хочам, каб гэты музей стаў інстытутам нацыянальнага дзяржаўнага ўладкавання, то і вырашаць гэта пытанне трэба нашымі агульнымі сіламі.

С.Н.Данілюк, старшыня савета па дабрачыннай дзейнасці БФК, народная артыстка СССР

Мне кажется, что было бы целесообразным обратиться от имени Белорусского фонда культуры или нашего пленума к деятелям культуры других государств, к тем, кто сегодня противодействует возвращению культурных ценностей. Обратиться к тому же Лихачеву, к другим деятелям культуры. Необходимо аргументировать нашими материалами, которые были в докладе, что за пределами Белоруссии осталось практически всё самое ценное. Мне кажется, что если б в этот спор вмешался вот этот мартиролог, который мы слышали в докладе, если б он был известен деятелям культуры, то ни у кого бы рука не поднялась чинить нам какие-то препятствия.

Это нужно сделать. Деятели культуры могут быть добрее и с большим пониманием отнестись к нашим проблемам, чем другие деятели.

